# “КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”

**незалежны перыядычны *on-line* часопіс**

**у падтрымку беларускай культуры**

**і беларускасьці**

## №13

## Сакавік 2016

*Часопіс заснаваны ў сьнежні 2012 года*

*Выходзіць раз на тры месяцы*

*Аттава, Канада*

## Дарагія сябры!

Часопіс**“КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”** заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і развіцьця беларускасьці.

Часопіс зьмяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцця беларускай нацыі.

Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на іншых мовах.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Свае матэрыялы дасылайце на* chasopis.sakavik@hotmail.com

Часопіс **“КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”** публікуецца на вэб-старонцы www.sakavik.net



*Аттава, Канада*

## Зьмест часопіса «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ», №13, сакавік 2016



*Наступны нумар часопіса выйдзе ў чэрвені 2016 года*

*Прадмова рэдактара*

Пачынаецца часопіс трыма *артыкуламі*, прысьвечанымі пытаньням ліквідацыі аўтарытарызму ў Беларусі (А. Кашо), стратэгіі і тактыкі нацыянальнага будаўніцтва (П. Мурзёнак) і асьвятленьню праблем ядзернай энэргетыкі (В. Рудовски). Артыкулам В. Рудовски часопіс пачынае серыю матэрыялаў у азначэньне Чарнобыльскай катастрофы, якая здарылася 30 гадоў таму назад.

Большую частку нумара заняў працяг дыскусіі "Нацыянальнае будаўніцтва і сучаснасць - 2015", прысьвечанай абмеркаваньню праекта "Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі". Праект "Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі" апублікаваны на старонках нашага часопіса (6 лютага 2016 года), газеты "Наша Ніва" (7 лютага), газеты "Новы час", на вэб-сайтах Згуртаваньня беларусаў свету "Бацькаўшчына", Таварыства беларускай мовы, "Мы – нацыя", "Пагоня" (Чэхія), Belarus News. Праект абмяркоўваўся беларускай рэдакцыяй Польскага радыё (27 лютага) і на "Белсаце" (12 сакавіка). На старонках "Нашай Нівы" было 55 каментараў. На падставе апублікаваных канструктыўных каментараў і дапаўненьняў, зробленых аўтарамі праекта, падрыхтаваны дапоўнены варыянт праекта. Мы ўдзячны сп. В. Якавенку і сп. М. Кеньку за зробленыя заўвагі і праўкі па стылю і мове дакумента. Натуральна, што часопіс "КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ" чакае новых каментараў з тым, каб як мага ў большай ступені ўдасканаліць "Стратэгію развіцця беларускай нацыі".

У раздзеле *"Дыскусія"* друкуецца дапоўнены варыянт "Стратэгіі" па стану на 25 сакавіка 2016 года, канстуктыйныя каментары, зьмешчаныя на старонках іншых вэб-сайтаў, заўвагі па пытаньні нейтралітэту (А. Кашо), заўвагі па практычнай рэалізацыі "Стратэгіі" (В. Шышко), артыкул па нацыянальнаму пытаньню (А. Астапенка). Канструктыўныя каментары тычацца такіх пытаньняў як дасягненьне краінай стану нейтральнасьці, ментальнасьць беларусаў, роль царквы\рэлігіі ў будаўніцтве нацыі і некаторых іншых пытаньняў.

У раздзеле *"Рэцэнзіі, пераклады"* зьмешчана рэцэнзія П. Мурзёнка "Глабалізацыя супраць нацыі" на эсэ В. Ц. Якавенкі "Як знайсьці духоўнасьць і гармонію ў грамадстве", а таксама поўны пераклад на рускую мову артыкула В. Ластоўскага "Што трэба ведаць кожнаму беларусу?" (*пераклад П. Мурзёнка*).

У раздзеле *"Юбілеі"* змешчаны віншаванні рэдакцыі ў гонар 80-годдзя з дня нараджэньня сп. Івонкі Сурвілла, старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

*Артыкулы*

**Аляксандр Кашо: Знішчэнне аўтарытарызму – шлях выратавання Беларусі**

Цяперашні крызіс у Беларусі стаў заканамерным вынікам палітыкі рэжыму Лукашэнкі. І што б не казала ўлада, спасылаючыся на цяжкае становішча ва ўсім свеце, менавіта ўнутраная палітыка кіраўніцтва прывяла краіну да такога стану. Пабудаваная эканамічная мадэль, якая заснавана на кансерваванні савецкай эканамічнай мадэлі, на арыентацыі эканомікі ў асноўным на аднаго партнёра – Расію, на зацісканні прыватнай ініцыятывы, на ізаляцыі Беларусі ад супрацоўніцтва з дэмакратычнымі заходнімі краінамі, прывяла да такіх вынікаў.

Сістэма кіравання, якую пабудаваў на развалінах савецкай сістэмы ў Беларусі Лукашэнка, вырачана на знішчэнне, хаця сам ён магчыма аб гэтым не здагадваецца альбо не хоча ў гэта верыць. Але сённяшні крызіс гэта яскрава пацвярджае, яго негатыўныя вынікі можна да часу стрымліваць пры дапамозе сілы, рэпрэсій, і дзяржаўнай прапаганды. Але толькі да пэўнага часу, пакуль сістэма зусім перастане адказваць на выклікі. Увогуле, на дадзены момант большасць рашэнняў сённяшняга кіраўніцтва выклікае толькі раздражненне і кпіны ў грамадстве. Ніхто ўжо не верыць ні ў праславутую стабільнасць, ні ў сапраўднасць выбараў.

Апошнім часам усё часцей сталі казаць пра трансфармацыю сістэмы ў каляўладнай тусоўцы: сярод чыноўніках, эканамістаў, палітолагаў, бізнэсоўцаў, журналістаў падкантрольных дзяржаўных і недзяржаўных медыя. То бок, у той сферы, якая ў дэмакратычных краінах называецца кіроўнай элітай, але наша праўладная супольнасць можа прэтэндаваць у лепшым выпадку на тэрмін істэблішмент і тое з нацяжкай. Наогул, гэта сацыяльная група ў Беларусі вельмі блізкая па функцыянальнай ролі і па прынцыпу свайго фарміравання да савецкай наменклатуры, але не хапае аднаго істотнага фактару – там была камуністычная партыя з сваёй ідэалогіяй, а зараз гэтага няма.

Крызіс сістэмы стаў настолькі відавочным, што нават топавыя чыноўнікі сталі казаць пра неабходнасць рэформ. Яно і зразумела, людзі якія знаходзяцца ва ўладзе хочуць захаваць свой сацыяльны стан і дабрабыт, правёўшы невялікія

рэформы, якія не закрануць іх становішча, бо сітуацыя складаная, пераўтварэнні саспелі і яны ўжо грукаюцца ў дзверы. Але ці магчыма гэта? Ці здолее цяперашняя сістэма самазахавацца пры невялікіх карэкціроўках? І ці зможа аўтарытарны рэжым паступова рэфармавацца ў дэмакратычны, як спадзяюцца некаторыя ліберальна настроеныя палітыкі? Тут варта паглядзець на тое, чым з'яўляецца той кіроўны клас, істэблішмент, які склаўся падчас праўлення Лукашэнкі.

Летась у адным з выступленняў былы прэм'ер адкрыў нам таямніцу, што без чыноўнікаў нам не абысціся. Гэта зразумела. Але зададзімся пытаннем, а на колькі неэфектыўная сённяшняя сістэма дзяржкіравання на 40, 50, ці 70 адсоткаў? А калі яшчэ прыкінуць, што ў выніку разняволення прыватнай ініцыятывы, у выніку перадачы шматлікіх функцый грамадзянскай супольнасці, якую колькасць дзяржслужачых трэба скараціць? Умоўна можна падзяліць цяперашнюю кіраўнічую мадэль на дзве функцыянальныя часткі: тэхнічную і аўтарытарна-ідэалагічную. Першая робіць неабходную працу - забяспечвае функцыянаванне эканамічнай, сацыяльнай сістэмы, другая - займаецца ўмацаваннем і забяспячэннем аўтарытарнай улады. Прычым нярэдка гэтыя дзве часткі сумяшчаюцца ў адным канкрэтным чалавеку, які займае пэўную пасаду, напрыклад, дырэктар якога-небудзь прадпрыемства, займаючыся сваімі непасрэднымі прафесійнымі абавязкамі, прыцягваецца да правядзення выбарчых кампаній у якасці агітатара і ідэолага, які павінен прасачыць і прымусіць сваіх падначаленых прыняць удзел у галасаванні. Чым бліжэй да вышэйшага кіраўніцтва, да вертыкалі ўлады тым аўтарытарна-ідэалагічная частка ўзрастае.

У дэмакратычнай краіне аўтарытарна-ідэялагічная частка істэблішменту непатрэбная (не толькі чыноўнікі, але і праваахоўнікі, якія займаюцца палітычным пераследам апанентаў улады, журналісты, якія займаюцца ідэалагічнай апрацоўкай насельніцтва, бізнэсоўцы, якія атрымліваюць дывідэнды ад супрацы з уладай, замест таго, каб займацца бізнесам у рыначным канкурэнтным асяроддзе). І што з імі рабіць? Гэта важнае пытанне для новай дэмакратычнай улады на Беларусі. Гэтыя людзі, магчыма самі таго не жадаючы, складаюць клас, які тармозіць развіццё краіны. Клас гэты наўпрост пераўтварае Беларусь у квазідзяржаву, пра якую кажуць тыя, хто варожа ставяцца да беларускай незалежнасці і мараць адрадзіць СССР.

Згодна закону аб неабходнай разнастайнасці, які ўвёў у навуковае абарачэнне Эшбі: «толькі разнастайнасць здольная паглынуць разнастайнасць». Гэтая асноўная фармуліроўка мае на сёння такую інтэрпрэтацыю: разнастайнасць кіруючай сістэмы павінна быць не меншай за разнастайнасць кіраванага аб'екта. З гэтага вынікае, што сістэма кіравання павінна мець дастаткова разнастайнасці і

быць здольнай змяняцца ў адказ на змены і выклікі вонкавага асяроддзя. Інакш яна не здолее забяспечыць стабільнае існаванне і развіццё сістэмы, якой кіруе, цэнтральны орган кіравання складаных сістэм павінен перадаваць функцыі прыняцця і выканання рашэнняў, а значыць пэўную долю ўлады на ніжэйшыя ўзроўні, што можна назіраць у дэмакратычных краінах, дзе не толькі рэгіянальныя структуры маюць даволі вялікія паўнамоцтвы, але сама ўлада падзелена на тры галіны, якія стрымліваюць і дапаўняюць адна адну.

Зусім адваротны працэс назіраецца ў Беларусі. Лукашэнка ад пачатку свайго прэзідэнцтва зрабіў стаўку на падпарадкаванне ўсіх галін улады ўладзе выканаўчай, на чале якой сам, аднаасобна застаецца вось ужо больш дваццаці год. З першых дзён ён пачаў адбудоўваць савецкую сістэму кіравання, т. з. вертыкаль улады. Асноўным прынцыпам гэтай вертыкалі з'яўляецца поўная згода з курсам кіраўніцтва, пра разнастайнасць у сэнсе свабоды прыняцця рашэнняў, праяўлення ўласнай ініцыятывы, а тым больш крытыкі рашэнняў вышэйстаячага кіраўніцтва гаворкі быць не можа. Асноўнымі рысамі прадстаўнікоў гэтай вертыкалі з'яўляюцца поўная адсутнасць уласнай пазіцыі, а таксама адсутнасць якіх-небудзь лідарскіх якасцей і харызматычнасці – харызматычным лідарам у такой сістэме можа быць толькі сам кіраўнік аўтакратычнай сістэмы. І адбор у вертыкаль улады вядзецца адпаведны, з кожным годам улада ўсё больш метадычна выключае верагоднасць з'яўлення ў яе складзе асоб, якія не адпавядаюць строгім крытэрыям адбору. Для прыкладу можна ўзяць выступ Лукашэнкі на прэс-канферэнцыі для прадстаўнікоў расійскіх СМІ ў кастрычніку 2012 году, у якім ён назваў работу з кадрамі найважнейшай задачай унутранай палітыкі: "Гэтым займаецца адміністрацыя прэзідэнта. У нас ёсць кадравы рэестр прэзідэнта - парадку дзевяцьсот чалавек. Прэзідэнт трымае пад кантролем ключавыя пасады ва ўладзе і эканоміцы. Разам з прызначэннем чалавек атрымлівае і пэўны імунітэт. На яго без ведама прэзідэнта не наедзеш".

Ад каго стаўленікі Лукашэнкі атрымліваюць імунітэт? Напэўна сам аўтар выказвання меў на ўвазе такія дзяржорганы як міліцыя, пракуратура, суд, бо крыху раней у гэтай жа прамове ён казаў, што гатовы прызначаць міністрамі вундэркіндаў незалежна ад узросту і не звяртаць увагі на крымінальнае мінулае некаторых кіраўнікоў прадпрыемстваў. Імунітэт вышэйшага чыноўніцтва ад прадстаўнікоў закону сам па сабе выклікае пытанні. Але не менш цікава тое, што такім чынам, кіраўнікі атрымліваюць імунітэт і ад кантролю з боку народа, бо іх прызначэнне залежыць не ад народа, а ад вышэйшага кіраўніцтва. А стаўленікі стаўленікаў атрымліваюць гэты антынародны імунітэт ужо на сваім больш лакальным узроўні. Такім чынам, кіраўнічыя вертыкаль губляе ўсялякую

разнастайнасць, становіцца абсалютна нягнуткай, глухой да адваротнай сувязі, якую магла б атрымаць ад сістэмы, якой кіруе, каб мець магчымасць змяняцца самой у адпаведнасці з актуальнымі выклікамі часу і асяроддзя. Дзякуючы такому прымітыўнаму механізму мы маем клас чыноўніцтва, які абслугоўвае адну асобу, і залежыць толькі ад волі гэтай асобы. Залежныя і недзеяздольныя стаўленікі Лукашэнкі не могуць прымаць самастойныя рашэнні, абапіраючыся на вызначаныя і зразумелыя законы, яны відавочна ўжо і развучыліся весці стваральную працу, якая патрабуе вялікай асабістай адказнасці, бо іх не па гэтай мерцы прымалі на працу.

Зразумела не ўсе чыноўнікі адыгрываюць адмоўную ролю ў руху грамадства да правоў і свабоды, да дэмакратычных рэформ, і не ўсе яны спрычыніліся да парушэнняў закону. Але і без датычнасці да парушэнняў і злачынстваў сама сістэма, у якой прыходзіцца выжываць толькі дагаджаючы начальству, не дае чалавеку вольна дыхаць. І нават калі чалавек не зрабіў значных парушэнняў закону, ён прама ці ўскосна спрыяе гэтаму рэжыму.

У мяне ёсць знаёмыя чыноўнікі, міліцыянеры, якія не надта шануюць гэты рэжым. Але служаць яму ў сілу жыццёвых абставін, напрыклад, таму што, атрымліваючы пэўную адукацыю, яны не збіраліся, працаўладкаваўшыся па сваёй спецыяльнасці, рабіць нічога такога, што б супярэчыла іх прафесійным, прававым абавязкам, а таксама маральным нормам. Але ім прыходзіцца часам такое рабіць (выконваць аўтарытарна-ідэалагічныя функцыі) і, адчуваючы сорам, яны пры гэтым трываюць, бо няма куды дзявацца. У такой сістэме чалавеку з неабходнасцю прыходзіцца выконваць непрыемныя для сябе абавязкі, напрыклад, звальненне ці адлічэнне некага за палітычныя погляды, скасаванне кантракту за тое, што нехта не падпісаўся на дзяржаўную газету, пры гэтым у такім чалавеку змагаецца дзве сутнасці: чалавечая, абавязаная выхаванню ў сям'і, школе, у коле сяброў, і звыродлівая, подлая, тая што дадаецца рэжымам. Менавіта так – аўтарытарная сістэма падштурхоўвае людзей да амаральных дзеянняў. Першая сутнасць поўнасцю перамагае рэдка, бо на практыцы гэта азначала б звальненне па "асабістаму" жаданню, але робячы брудную справу чалавек можа неяк паспрабаваць звесці да мінімуму вынікі свайго ўдзелу ў гэтай бруднай справе. Самае дрэннае для грамадства ў аўтарытарных сістэмах гэта калі амаральнасць, антызаконнасць патрабаванняў кіруючых вярхоў пачынаюць успрымацца як норма і закон.

Па вялікаму рахунку тыя служачыя, якія ціха-мірна, не парушаючы закону, працуюць і выконваюць далёка не заўсёды патрэбную і пачэсную працу на сваіх месцах не надта вінаватыя ў становішчы, якое склалася, бо яны проста пайшлі па

тым шляху, які быў усталяваны гэтым рэжымам. Але шлях гэта заганны і з непазбежнасцю вядзе грамадства да тупіка, у якім вышэйшая кіраўніцтва проста не ў стане спрыяць стабільнаму развіццю, бо, па-першае, большасць з іх не валодае патрэбнымі ведамі і здольнасцямі, у сваіх прафесійных абавязках яны ў асноўным толькі і могуць накручваць сваіх падначаленых, прымушаючы апошніх да дзеянняў па прынцыпу: пайдзі невядома куды, зрабі невядома што. А па другое, нават калі хто з іх і захоча нешта змяніць, мяняць прыйдзецца ўсю сістэму, чаго яна не даруе. Ну а больш ніжэйшы кіраўнічы персанал проста пасіўна і цярпліва выконвае функцыю праваднiка.

Цяперашні эканамічны крызіс гэта не кан’юнктурны, не часовы, гэта крызіс усёй сістэмы кiравання. У свой час пасля падзення камуністычнай сістэмы на Беларусі назіраўся ўсплёск эканамічнай актыўнасці. Гэты ўздым быў мэтанакіравана задушаны і адрадзіць яго не так проста, бо трэба, каб людзі паверылі дзяржаве. Шмат з тых, хто паспрабаваў пачаць сваю справу, сутыкнуліся з непераадольнымі бюракратычнымі цяжкасцямі, цяпер яны кажуць: “Не, я болей у азартныя гульні з дзяржавай не гуляю”. Бо так і атрымліваецца, што бізнес у Беларусі гэта азартная гульня і банкуе ў ёй дзяржава, шулер, які пакідае сабе козыры (“залатая акцыя”) і здае астатнім гульцам тое, што палічыць патрэбным. Грамадзяніну сёння прасцей і больш бяспечна працаваць у якой-небудзь арганізацыі, на прадпрыемстве ды падрабляць на часовых заробках, чым увязвацца ў ненадзейную авантуру, якая называецца бізнес у Беларусі, правіла гульні ў якой перманентна змяняюцца. Такім чынам, мы маем вялікія страты ў выніку заціскання ўласнай ініцыятывы грамадзян. І каб грамадзяне паверылі зноў дзяржаве, ёй трэба будзе пастарацца.

Сярэдні клас, на якім трымаецца эканоміка ў дэмакратычных краінах, і ў якім вялікая роля належыць сярэдняму і малому прадпрымальніцтву, не патрэбны ў аўтарытарных і таталітарных краінах. У такіх сістэмах саму ідэю гэтага класу спрабуюць альбо маргіналізаваць (такія ж працэсы адбываюцца і ў Расіі, дзе сярэдні клас дэманізуецца ў плыні ідэалагічнай антызаходняй крытыкі як гэткая маса зацыкленных на матэрыяльным дабрабыце людзей, якая абсалютна не дбае пра духоўныя каштоўнасці), альбо прыўладныя СМІ наўпрост перастаюць ужываць гэтае паняцце ў інфармацыйнай прасторы, бо ў звязцы з гэтым паняццем ідуць паняцці грамадзянскіх правоў і свабод, атрымліваецца, што ідэалогія аўтарытарнай сістэмы адчувае натуральную чужароднасць сярэдняга класа.

Што тычацца буйнога бізнесу, то ў большасці сваёй ён залежны ад дзяржавы і моцна кантралюецца чыноўніцтвам. І не выпадае чакаць, што прадстаўнікі гэтай супольнасці пачнуць дзейнічаць у інтарэсах дэмакратыі. Буйныя беларускія бізнесоўцы нясуць пэўныя выдаткі ў аўтарытарнай сістэме, але маюць і

прэферэнцыі ад супрацы з рэжымам – такім рэзкія перамены, паварот да сапраўднай рыначнай эканомікі не патрэбны.

Як адзначалася вышэй, некаторыя чыноўнікі, праўладныя журналісты, разумеючы цяжкасць эканамічнага становішча, пачалі размовы пра рэформы. Але ўлічваючы тую кіруючую сістэму, якая ў агульных рысах была апісана вышэй цяжка паверыць у тое, што такая сістэма можа быць рэфармавана і эвалюцыйным шляхам пераўтворана ў дэмакратычную сістэму, у якой будуць праведзены сапраўдныя дэмакратычныя выбары і ўсталюецца канкурэнтаздольная рыначная эканоміка, каб тым самым вырваць краіну з эканамічнага крызісу, які пагражае яшчэ большымі стратамі ў хуткім часе. Вонкавыя, касметычныя змены ў цяперашняй аўтарытарнай сістэмы змогуць толькі адцягнуць набліжаючуюся эканамічную катастрофу, якая з непазбежнасцю выкліча разам з сабой крызіс сацыяльны. Аўтарытарна-ідэалагічная частка цяперашняга дзяржаўнага апарату павінна быць адхілена ад улады, павінны адбыцца сапраўдныя дэмакратычныя выбары. Крызіс ужо адчуваецца ўсімі грамадзянамі Беларусі, і трэба быць сумленнымі перад самімі сабой і грамадствам і казаць, што ён яшчэ больш паглыбіцца пры любой уладзе, бо цяжкасці, якія да яго прывялі не выпраўлены і не выпраўляюцца. Але калі сістэма, якая давяла краіну да такога стану будзе ліквідавана і адбудуцца сапраўдныя перамены, то ў грамадства з'явіцца магчымасць змяніць сітуацыю да лепшага, у адваротным выпадку сітуацыя можа аказацца настолькі цяжкай, што пад пагрозай апынуцца і грамадзянскі спакой, і дзяржаўнасць Беларусі.

Да тых, хто за рэфармаваннем аўтарытарнай сістэмы шукае шляхі яе захавання далучыліся і некаторыя з тых, хто раней лічыўся апазіцыяй дзейснаму рэжыму. Пры гэтым яны злоўжываюць лозунгам, што, маўляў, яны за мірныя перамены. Пад гэтым маецца на ўвазе супрацоўніцтва з рэжымам, якое насамрэч створыць ілюзію перамен, і падорыць падманлівыя спадзяванні людзям, якія ўпэўнены ў неабходнасці перамен і чакаюць іх, а такіх людзей на сёння большасць. Такім чынам, такая тактыка прывядзе толькі да паглыблення праблемы і непазбежных сацыяльных забурэнняў у будучым.

У гэтых палітыкаў, якія клічуць да перамен пад кантролем аўтарытарнай улады, дамінуюць аргументы, што народ не падрыхтаваны да сапраўдных перамен і дэмакратыі, яны спасылаюцца на цяжкасці пераходнага перыяду, на тое, што нельга дапусціць развязвання рэвалюцыі. Аднак, што азначаюць цяжкасці пераходу? Яны ў тым, што на шляху да пераўтварэнняў стаіць менавіта аўтарытарны рэжым, да супрацы з якім прызываюць чыноўнікі і некаторыя апазіцыянеры. Неабходнасць змены аўтарытарнай улады падмяняюць адсунутымі

развaжаннямі аб цяжкасцях пераходнага перыяду, але калі праблему не зацямняць, а наадварот праясніць, то – вось канкрэтныя інстытуцыянальныя бар'еры, вось канкрэтныя людзі, якія стаяць за цяперашнімі праблемамі і праз іх адхіленне ад улады праходзіць вырашэнне цяжкасцей пераходнага перыяду, бо з імі гэты перыяд будзе цягнуцца вечна. Дык можа трэба вярнуцца да ідэі дэмакратыі, якая замацавана ў Канстытуцыі, а потым мы паглядзім: падрыхтаваны беларускі народ да дэмакратычных пераўтварэнняў ці не?

Наконт ідэі мірнага шляху да перамен, якую вышэйзгаданыя палітычныя сілы залічылі да сваіх дасягненняў і маніпулююць ёй, быццам бы іншыя прагнуць крывавай развязкі. Ніхто з тых, хто знаходзіцца ў здаровым розуме не жадае такога шляху вырашэння склаўшагася становішча. Але логіка развіцця ўсіх канфліктаў і рэвалюцый у тым, што за дзень, за месяц, а то і за гады іх прадухіліць ужо нельга. Нельга было ніякім чынам прадухіліць расстрэл мітынгоўцаў на Банкавай вуліцы ў Кіеве за дзень ці за месяц. Бо нават калі б нехта папярэдзіў супрацьлеглыя бакі аб такім развіцці падзей наўрад ці хто спыніўся б і павярнуў назад. Спыніць такія канфлікты можна толькі прымусіўшы недэмакратычную ўладу, якая не збіраецца лічыцца з воляй народа,  сысці да таго як сітуацыя патрапіць ў нязвяртальную каляіну. І той, хто прапануе вонкавыя, касметычныя рэформы такой сістэмы толькі адкладае і зацягвае развязку, а на сур'ёзныя дэмакратычныя рэформы вышэйшае кіраўніцтва не пойдзе, бо ў выніку іх згубіць уладу. Таму аўтарытарна-ідэалагічная частка цяперашняй кіроўнай сістэмы павінна быць адхілена ад улады.

Мы ўжо плацім вялікую цану за тое, што больш 20-ці год народ Беларусі пазбаўлены ўдзелу ў кіраўніцтве краінай. І ў гэтым становішчы часткова вінавата эліта, якая павінна супрацьстаяць аўтарытарнай сістэме. Тут дарэчы прывесці словы Л. Шаўцовай расійскага палітолага, якія яна выказала пра сучасную сітуацыю ў Расіі і рэжым В. Пуціна, але якія таксама падыходзяць і да нашай сітуацыі: "Палітычны філосаф Дарендорф казаў: жыццяздольнасць кожнага грамадства залежыць ад таго, дзе стаіць інтэлектуал … Інтэлектуал павінен змагацца з уладай пры любых сістэмах і пры любых таварыствах. Калі ў яго няма мужнасці рабіць гэта і калі ён служыць уладзе ў любых якасцях - гэта грамадства не мае будучыні ... Што мы можам патрабаваць ад звычайных людзей, ад грамадства, калі інтэлектуалы служаць уладзе? … Ёсць дзве рэчы. Рэжым у нас, нягледзячы на тое, што ён умацаваўся, у яго ёсць пэўны загашнік, ёсць эканамічны рэсурс, але перш за ўсё асноўны рэсурс - гэта не эканоміка, а лаяльнасць і бесхрыбетнасць палітычнай эліты і саслоўя, якое павінна думаць" (http://www.svoboda.org/content/transcript/25214064.html).

Тая ж самая сітуацыя і з пытаннямі палітычнага і эканамічнага стану ў сучаснай Беларусі. Чаго толькі не пачуеш ад некаторых інтэлектуалаў, калі яны пачынаюць шукаць прычыны сённяшняга становішча – прыдумваецца безліч гісторый, якія не маюць дачыненне да рэчаіснасці. Можна зразумець публіцыстаў і журналістаў: ім трэба шукаць цікавае і новае нават у аднастайнасці і будзённасці, але ж нельга рабіць гэта насуперак самой відавочнасці. На пэўным этапе ў нашай незалежнай прэсе склалася сапраўдная традыцыя ўхваляць прыстасавальніцкі характар эканамічнай палітыкі паразітызму. Нярэдка можна было пачуць панегірыкі эканамічнай палітыкі Лукашэнкі, якая была заснавана на стратэгіі набірання грошай у крэдыт, маўляў, гэта геніяльная палітыка лавіравання паміж Захадам і Усходам. І вось гэтая палітыка прывяла да эканамічнага крызісу, які па некаторых паказчыках глыбей за крызіс ва Украіне, якая вядзе вайну.

Гледзячы на некаторых прадстаўнікоў нашай палітычнай эліты, не-не дый прыйдзе ў галаву думка, а ці вераць яны самі ў тое, што гэтую ўладу можна і неабходна змяняць, ці думаюць яны аб тым, якімі шляхам можна гэтага дасягнуць? А можа яны занялі чакальную пазіцыю пакуль рэжым сам па сабе згіне, і наўпрост спадзяюцца на тое, што толькі звонку можна зрынуць абрыдлую калгасную сістэму? А самі тым часам, абапіраючыся на матэрыяльнаю падтрымку дэмакратычных краін (або не абапіраючыся), мітусліва мільгацяць на недзяржаўных інфармацыйных рэсурсах, каб потым, калі рэжым па нейкай прычыне ў рэшце рэшт сам абрынецца, адарваць свой кавалак ад уладнага пірага? А можа іх задавальняе цяперашняе становішча, бо статус пакрыўджаных таксама сёе-тое можа прынесці?

Адной з шкодных, на мой погляд, тэндэнцый у інтэлектуальным асяродку з’яўляецца спроба прынізіць разбуральнасць, якую нясе грамадству аўтарытарная сістэма. Пры такім падыходзе адказнасць з сістэмы, за якой стаяць канкрэтныя людзі і структуры пераносіцца на грамадства. Можна пачуць пры гэтым, што беларусы амаль па прыродзе не здатныя да дэмакратыі, што “усё залежыць ад самога чалавека”, што “дух свабоды быў моцным і ў сталінскія 37-я, у каго ён быў”! Пры гэтым спасылаюцца на Заходняю Еўропу і забываюць, што спачатку ў Еўропе грамадскія каштоўнасці дэмакратыі, вяршэнства права, свабоды былі больш у ідэальнай сферы, у сферы разважанняў рэфарматараў і крытыкаў існуючых сацыяльных адносін, потым перайшлі на ўзровень сістэмы, дзе вядучая роля належыць дзяржаве, а ўжо затым перайшлі на ўзровень грамадскага жыцця, на ўзровень паўсядзённай рэчаіснасці, і ў рэшце рэшт пачалі ўспрымацца як асноўная характарыстыка заходняга грамадства, нібыта ад веку дадзеная. Так, напрыклад, добра вядома, што яшчэ і ў 19 ст. у Англіі хабарніцтва ў судах была

з'явай звыклай. А знакаміты філосаф Бэкан у 17 стагоддзі быў абвінавачаны ў хабарніцтве і адлучаны ад пасады лорда-канцлера, пра што Бертран Расал у сваёй працы "Гісторыя заходняй філасофіі" заўважыў: "Этыка юрыдычнай прафесіі ў тыя дні была невысокая. Амаль кожны суддзя прымаў паднашэнні звычайна ад абодвух бакоў. У цяперашні час мы лічым, што для суддзі браць хабар жудасна, але яшчэ больш жудасна, узяўшы яго, вынесці рашэнне супраць таго, хто іх даў. Але ў тыя дні прынашэння былі справай звычайным, і суддзя паказваў сваю «дабрачыннасць», менавіта ня паддаючыся іх уплыву. Бэкан быў асуджаны выпадкова, у партыйнай сварцы, а не ў сілу яго выключнай вінаватасці." Такім чынам, Заходняя Еўропа, якую мы бяром за прыклад, прайшла свой складаны шлях да ўсталявання тых каштоўнасцей, якія мы зараз лічым атрыбутамі заходняй цывілізацыі. Пры гэтым, канешне, зразумела, што разглядаемая ў канкрэтным гістарычным кантэксце Еўропа на працягу апошніх двух з паловай тысячагоддзяў была ў асноўным наперадзе астатніх цывілізацый. У працэсе развіцця ўзаемна рэфармаваліся і дзяржава, і грамадства, але па сапраўднаму ўніверсальнымі заходнія каштоўнасці сталі тады, калі ў дзяржавы з'явілася дастаткова палітычнай волі, каб выконваць свае ўласныя законы і нормы, і працэс гэты працягваецца.

Прыніжаючы ўзровень разбуральнага ўздзеяння аўтарытарнай сістэмы, многія сучасныя аналітыкі робяць памылку. Яны разважаюць з той перспектывы, у якой мы зараз апынуліся. Але карысна задумацца над тым, як нашы словы і дзеянні будуць успрымацца ў будучым з пазіцыі дэмакратычнага ладу, з адкрытымі таямніцамі аўтарытарнай мінуўшчыны, з яе вернутымі гісторыі негалоснымі распараджэннямі і рассакрэчанымі дзяржаўнымі архівамі, альбо як будуць, напрыклад, выглядаць цяперашнія заявы, калі сітуацыя пойдзе па найгоршаму сцэнару. Хайдагер неяк сказаў, што людзі думаюць выключна пры дапамозе "-ізмаў", здаецца і сёння ў гэтым плане нічога не змянілася, можна сказаць, што людзі не думаюць, а трэндзяць (ад слова трэнд). Так, напрыклад, падтрымка аўтарытарнай улады, замоўчванне, тэндэнцыйнае падача фактаў на дадзены момант выглядае інакш чым яна будзе выглядаць калі, скажам, улада пойдзе на яшчэ больш брутальныя дзеянні чым раней ў дачыненні да тых, хто не пагаджаецца з цяперашнім рэжымам (а адпрацаваная рэпрэсіўная машына на месцы, яна падрыхтавана і прайшла выпрабаванні). Альбо калі Беларусь увяжацца ў які-небудзь ваенны канфлікт на баку Расіі, нават у лакальны на тэрыторыі АДКБ, не кажучы ўжо пра вялікую вайну супроць Захаду, то адказнасць і ступень віны за памылку, а тым больш за хлусню ўзрасце шматкроць, пасля таго як імперыя разваліцца. І ў гэтым плане стане неістотна пад якімі сцягамі выступаў той ці іншы эксперт, альбо журналіст - галоўнае будзе, што ён канкрэтна казаў тады, калі сітуацыя толькі развівалася.

Калі ў нас адбудуцца нарэшце перамены і Беларусь прыйдзе да дэмакратычнага ладу перад грамадствам паўстане пытанне люстрацыі. Ці патрэбна яна наогул, а калі патрэбна то якім чынам яе праводзіць? Краіны былой Варшаўскай дамовы прайшлі гэты працэс, а таксама некаторыя рэспублікі былога СССР. Ён меў розныя вынікі, але большасць экспертаў сыходзяцца ў яго станоўчай ацэнцы. Дзве асноўныя ідэі вылучаюцца як мэты люстрацыі гэта: ідэя справядлівасці і ідэя адхілення скарумпаванай антыдэмакратычнай і антызаконнай уладнай структуры дзеля будучага развіцця грамадства. Нягледзячы на ўсю важнасць ідэі справядлівасці, як пакарання вінаватых і прадухілення падобнага роду злачынстваў, больш важнай падаецца неабходнасць пазбаўлення былой наменклатуры магчымасці ўплываць на будучую ўладу. Уся цяперашняя аўтарытарна-ідэалагічная частка рэжыму павінна быць адхілена ад улады дзеля будучага краіны, а людзі, якія рэальна спрычыніліся да злачынстваў, павінны панесці адказнасць.

Імкнучыся спрыяць пабудове цывілізаванай дэмакратычнай еўрапейскай Беларусі, не варта забываць, што адной з каштоўнасцей і здабыткаў еўрапейскай культуры з’яўляецца ўстаноўка на дакладнасць у фармуляванні праблемы, дакладнасць у вызначэнні, неабходнасць у вынясенні ацэнак, якімі б жорсткімі для сённяшняга часу яны не здаваліся, - гэта для Еўропы з’яўляецца тыпалагічнай рысай. Але ў нас былі і працягваюць развівацца тэндэнцыйныя спробы надаць імітацыйным рухам і заявам сучаснай улады сапраўдныя дэмакратычныя змест і мэты, якія насамрэч такімі не з’яўляюцца і не будуць з’яўляцца пры цяперашнім рэжыме. Тыя сілы, якія выступаюць за захаванне цяперашняй аўтарытарнай сістэмы, што прадстаўнікі цяперашняга істэблішменту, што прадстаўнікі контр-эліты, такім чынам, выступаюць як частка сістэмы. Пры гэтым яны аргументуюць сваю пазіцыю жаданнем мірнага шляху перамен. Але іх прытворная тактыка можа прывесці да адваротнага выніку.

Сёння нават бліжэйшыя да Лукашэнкі чыноўнікі пачалі казаць пра неабходнасць рэформ, гэта вынік крызісу, які паступова разварочваецца на Беларусі, перш за ўсё ў эканоміцы, стан якой выклікае вялікую заклапочанасць. За гады праўлення А. Лукашэнкі мы страцілі вельмі шмат: не развілі моцны індывідуальны сектар эканомікі (і не маглі гэта зрабіць, бо для палітыкі якую праводзіць Лукашэнка, клас прадпрымальнікаў, эканамічна свабодных грамадзян, стаўся б ворагам нумар адзін), у выніку палітыкі ізаляцыі ад цывілізаванага свету страцілі рынкі, тэхналогіі, інвестыцыі, завязаўшы сваю эканоміку ў асноўным на аднаго партнёра – Расію. Несумненна, што эканамічны крызіс пацягне за сабой крызісы ў іншых сферах грамадскага жыцця.

Ці маюць пад сабой падставы спадзеванні на тое, што цяперашні рэжым можа без вялікіх цяжкасцей паступова рэфармавацца ў дэмакратычную сістэму? Нават павярхоўны аналіз дае адмоўны адказ на гэтае пытанне. Бо гэта сістэма прынцыпова недэмакратычная і ўсе імітацыйныя размовы пра рэформы яна выкарыстоўвае толькі як спробу самазахавання. Адкладанне змены ўлады з аўтарытарызму на дэмакратыю прывядзе толькі да больш небяспечнага сцэнару вырашэння гэтага пытання. Аўтарытарна-ідэалагічная частка сённяшняга рэжыму павінна быць адхілена ад улады, і само сабой зразумела, што для ўсіх будзе лепей калі гэта пройдзе без вялікіх рэвалюцыйных забурэнняў. Галоўная роля ў працэсе пераўтварэнняў належыць нацыянальнай эліце, інтэлектуалам. Спадзевы на прадстаўнікоў цяперашняга істэблішменту недарэчныя, аднак, калі гэтыя людзі не здзейснілі ніякіх злачынстваў пры цяперашнім рэжыме, то яны, напэўна, могуць прыняць удзел у новай дэмакратычнай сістэме кіравання, але толькі пасля поўнага перафарматавання старой сістэмы, на роўных умовах з астатнімі грамадзянамі краіны.

**Alexander Kasho: Destruction of Authoritarianism - the Way of Salvation of Belarus** *(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", March 2016, issue 13, pp. 5-15)*

The current crisis in Belarus is a natural result of the Lukashenka's regime policy. Management system built on the ruins of the Soviet system can be divided into technical and authoritarian-ideological parts. The first part provides the functioning of the economic and social system, the second - strengthens and maintains the authoritarian regime. In a democracy, the authoritarian-ideological part of the establishment is not necessary as far as it inhibits the development of the country. It is hard to believe that current system in Belarus could be reformed and transformed into a democratic system by evolutionary way which will provide genuine democratic elections and establish a competitive market economy. The current economic crisis in Belarus threatens to further losses in the near future. Whoever offers external, cosmetic reforms of that system, both from the government side or from some opposition forces side, only postpones and delays the denouement. Authoritarian-ideological part of the current regime should be removed from power and that all will be better if it will pass without major revolutionary indignation. The question of lustration is discussed, especially the need to exclude the influence of the former nomenclature on the future government. The main role in the transformation process belongs to the national elite, intellectuals.

**Пётра Мурзёнак: Аб стратэгіі і тактыцы нацыянальнага будаўніцтва**

Для многіх шараговых грамадзян Беларусі пытаньня аб будаўніцтве нацыі не існуе. І не таму, што яны занятыя вырашэньнем сваіх штодзённых справаў – проста яны падсьвядома адчуваюць нутром, што беларусы спакон вякоў існавалі і жывуць на гэтай зямлі, і што на сёняшні дзень у іх усё ў парадку, у сэнсе адчуваньня наяўнасьці нацыі\народа. Большасьць з іх, 83.7% па перапісу 2009 года, па крайне меры, адчуваюць сябе беларусамі. Беларускія карані ўрасьлі глыбока і калі хтосьці спрабуе закатаць іх пад савецкі асфальт ці пад асфальт "русского мира", то з гэтых спроб нічога не атрымаецца. Беларускі нацыянальны парастак рана ці позна прабівае ўсе забароны і зноў з'яўляецца на нашай цудоўнай зямлі, нават з пад асфальта. Так паўтаралася шматкроць, так будзе і надалей. Беларускай нацыі – быць і прычынай таму ёсьць усведамленьне беларусаў, што яны ёсьць беларусамі.

Але калі мы пачынаем размаўляць акадэмічнымі катэгорыямі, у сэнсе, што такое нацыя, што яе вызначае, то вядома ж, тут яшчэ можна заўважыць шмат хібаў, якія могуць сьведчыць аб слабасьці нашай нацыі. Прыкладаў тут шмат і не трэба многа паўтарацца. Перш за ўсё мова, гістарычныя веды і іх глыбіня аб беларускай спадчыне, гонар, гатоўнасьць абараняць сваю радзіму ад магчымых ворагаў. Што ж трэба рабіць каб паглыбляць гэтыя веды і ўдыхнуць у беларусаў веру, што яны ёсьць унікальная, як і многія іншыя, нацыя ў сьвеце. Дзяржава пакуль што шмат не дбае пра нацыянальнае развіцьцё, прыгрэўшыся пад бокам у Расіі і будуючы цывільную рускамоўную дзяржаву. Перспектывы зьменаў у гэтым накірунку не заўважаецца, нягледзячы на варожасьць Расіі ў адносінах да Украіны і нейкія паслабленьні, зробленыя з боку Еўрапейскага Саюза. Відавочна, што кіруючая эліта, знаходзячыся паміж двумя агнямі, Расіяй і Захадам, вельмі нерашуча дэманструе зрэдку праявы беларускасьці. Аднак, гэта робіцца вельмі няўцямна, баючыся грознага крыку з боку ўсходняга суседа і не адчуваючы выразнага ціску з боку беларускай грамадзянскай супольнасьці, якая знаходзіцца, як і раней, у даволі глыбокім крызісе.

Паспрабуем акрэсліць магчымыя стратэгічныя шляхі ўмацаваньня нацыі. Першай і асноўнай задачай для гэтага бачыцца асьвета і адукацыя беларускага насельніцтва. Калісьці літоўцы, нашыя самыя блізкія суседзі ў Вялікім Княстве Літоўскім, у канцы 19-га стагоддзя выпрацавалі стратэгію сваіх узаемаадносін з суседзямі такім чынам, што змаглі даказаць сваю нацыю перад усімі, уключна з палякамі, якія

дамінавалі ў Рэчы Паспалітай у 17-18-м стагоддзях. Яны нават выпрацавалі свой алфабіт, каб быць адрознымі ад правапісу польскага суседа. Спробы беларусаў зрабіць тое ж самае ў канчатковым выглядзе не далі такіх вынікаў, калі казаць пра станаўленьне нацыі. Так, была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка (25 сакавіка 1918 года) і БССР (1 студзеня 1919 года), аднак нягледзячы на перыяды беларускага адраджэньня (20-30-я гады і 90-я гады мінулага стагоддзя), пытанне аб моцнасьці нацыі ўсё яшчэ дыскутуецца. Яно дыскутуецца з большага ва ўмовах зьнешніх пагрозаў (уплыў 'русского мира'), і ў той жа час у выніку слабасьці ці недастатковай моцы нацыянальнай эліты, якая б мусіла выконваць задачы, акрэсленыя нацыянальнай ідэяй.

У гісторыі Радзімы было зроблена шмат высілкаў, каб беларуская ідэя рэалізавалася. Што такое беларуская ідэя? У канчатковым выглядзе гэта існаваньне незалежнай, беларускай дзяржавы. Такая дзяржава існуе. Хутка будзе роўна 100 год ад таго моманту, калі на карце сьвету з'явілася беларуская дзяржава. Падставы для яе стварэньня мелі вельмі сур'ёзны грунт – гэта існаваньне гістарычнай Полацкай дзяржавы, Вялікага Княства Літоўскага і наяўнасьць нацыянальна-сьвядомых людзей на пачатку 20-га стагоддзя. Але да гэтага часу народ Беларусі не мае выразнага нацыянальнага твару.

Пасьля развалу СССР Беларусь атрымала дэ юре незалежнасьць, за якую фактычна не змагалася, і вырвалася нарэшце з-пад рукі Расійскай і савецкай імперыі. Ці з'явілася пасьля гэтага беларуская нацыя ў поўным сэнсе гэтага слова? Відаць, не. Прыход да ўлады людзей з савецкім менталітэтам не дазваляе казаць пра будаўніцтва беларускай нацыі, хаця, па вялікаму рахунку, можна казаць пра тое, што незалежнасьць і суверэнітэт самой дзяржавы значна ўмацаваліся. Здавалася б, парадокс. Дзяржава ўмацоўваецца, а нацыя не развіваецца. Народ можа жыць эканамічна горш альбо лепш, але пытаньне стаіць аб духоўным жыцьці народа, якое не знаходзіць свайго развіцьця пры цяперашнім кіраўніцтве.

Спробы рэалізаваць нацыянальнае пытаньне рабіліся не раз, выкарыстоўваючы новыя падыходы, адпаведаючыя свайму часу. Дыскусія, якая зараз ідзе на старонках часопіса "Культура, Нацыя" па пытаньню выпрацоўкі "Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі", гэта чарговая спроба нацыянальнай эліты кансалідаваць свае высілкі для рэалізацыі нацыянальнай ідэі. Гэта дыскусія, прадыктаваная новымі зьнешнімі і ўнутранымі фактарамі, чакае свайго працягу. Чым больш людзей і арганізацый далучыцца да абмеркаваньня "Стратэгіі", тым лепш. Спяшацца не трэба. Праект разьлічаны на 20 гадоў, тэрмін жыцьця аднаго пакаленьня, і калі мы здолеем яго рэлізаваць, то зможам паставіць сабе станоўчую адзнаку. Мы маем дастаткова часу, каб узвешана і грунтоўна прапанаваць

грамадзянам нашай краіны асноўныя правілы паводзін, якія дазволяць нам зьберагчыся ў гэтым сьвеце і не растварыцца ў рускіх ці глабальных хвалях.

Хацелася б звярнуцца да ўзаемаадносін стратэгічных і тактычных задач рэалізацыі нацыянальнай ідэі. Дапоўнены праект "Стратэгіі развіццьця беларускай нацыі" (па стану на 25 сакавіка 2016 года) друкуецца ў гэтым нумары часопіса. Безумоўна, ключавой задачай "Стратэгіі" з'яўляецца будаўніцтва нейтральнай нацыянальнай дзяржавы, дзе будуць прадбачаны і выконвацца ўсе нормы роўнасьці і дэмакратыі. Нейтральнай – г.зн. палітычна незалежнай краіны, нацыянальнай – бо беларускай, дзе ўсе нацыянальныя меншасьці будуць карыстацца тымі ж правамі, што й беларусы – прадстаўнікі нацыяўтвараючага этнасу.

Прадбачваецца, што праект "Стратэгіі" будзе даведзены да ведама да большасьці беларускіх сем'яў на працягу некалькіх гадоў. Гэта ў нейкай ступені мара, але мара без якой немагчыма ўсталяваньне стабільнай, жыцьцяздольнай еўрапейскай нацыі. Імкненьне быць нейтральнай нацыяй - не азначае адмаўленьня ад статуса еўрапейскай краіны. Еўрапейскасьць у нейтральнай краіне мусіць прысутнічаць у выглядзе дэмакратычных прынцыпаў дзяржаўнага кіраваньня, зьберажэньня свабод і правоў чалавека, як прадугледжана "Хартыяй правоў чалавека", зацверджанай ААН. Такая еўрапейскасьць не мусіць мець нічога агульнага з савецкасьцю ў тым сэнсе, што такія правы могуць быць прыхаваныя пад псеўдадэмакратычнымі лозунгамі і культурай, якая мае найперш прыярытэт сілы і падпарадкаваньне волі чалавека на карысьць дзяржаве.

Тыя выбары, якія праходзяцяць ў пост-савецкіх краінах, з вялікай цяжкасьцю, за некаторым выключэньнем, можна аднесьці да свабодных. І справа не толькі ў фармальным выніку такіх выбараў, а ў той калектыўнай ментальнасьці, якая прапаведуе падпарадкаванасьць дзяржаве і якая ў значнай меры падтрымліваецца царквой, калі мець на ўвазе праваслаўе, да якога часова прыпісаны па кананічнаму, але не па нацыянальнаму праву тэрытыторыі.

Падаецца, што змаганьне за нацыянальныя правы ўскладняецца тым, што яно мусіць ісьці адначасова са змаганьнем за дэмакратычныя правы. У той жа час, ні ў якім разе мэта дасягненьня дэмакратычных свабод не можа падмяняць выкананьне тых задач, якія неабходны для будаўніцтва нацыянальнай дзяравы. Уявіце сабе такую сітуацыю, калі на свабодных дэмакратычных выбарах ў Беларусі перамогу могуць атрымаць сілы, якія не будуць дбаць пра вырашэньне нацыянальных пытаньняў.

Некаторыя з задач у прапануемай "Стратэгіі" адлюстраваны ў праграмах палітычных партый і рухаў. Аднак, да гэтага часу галоўнай памылкай нацыянальнай эліты з'яўляецца адсутнасьць сфармуляваных адзіных стратэгічных нацыянальных задач. Галоўнае тут не ў тым, хто першы ці хто "сапраўдны патрыёт", а ў тым каб выпрацаваць агульную "Стратэгію" і пасьлядоўна год за годам, дзесяцігоддзе за дзесяцігоддзем яе ажыцьцяўляць. У апошнія дзесяцігоддзі рабіліся тактычныя спробы аб'яднацца на час кароткачасовых выбарчых кампаній, прэзідэнцкіх ці парламенцкіх, але яны завяршаліся паразай. І адной з прычынаў таму была адсутнасьць стратэгічнай праграмы дзеянняў, найперш у нацыянальных пытаньнях.

Нельга адмаўляць важнасьць такіх кампаній, але яны праводзіліся нешматлікімі сіламі. За 20 апошніх год ідэі правацэнтрысцкіх партый, такіх як БНФ ці КХП-БНФ, і іншых партый дэмакратычнага накірунку не знайшлі шырокай падтрымкі ў насельніцтва. Аб гэтым сьведчыць як адсутнасьць росту колькасьці сяброў гэтых партый, так і няведаньне большасьцю насельніцтва ідэй, якія яны нясуць. Нельга растлумачыць адсутнасьць прасоўваньня нацыянальных ідэй гэтымі сіламі толькі рэпрэсіўнымі дзеяньнямі ўладных структур.

Неканстукрыўная крытыка, якую часта можна пачуць у асяроддзі беларускай эліты, не спрыяе яднаньню, а наадварот вядзе да раз'яднаньня тых недастакова моцных сіл, якія бачны на нацыянальнай арэне. Падаецца, што пазіцыя судзіць усіх выглядае бяспройгрышнай, аднак, вялікі недахоп у ёй заключаецца ў адсутнасьці канструктыўных прапановаў, якія б дазвалялі рухаць нацыянальную ідэю наперад. І ў гэтым заключаецца яшчэ адзін парадокс – фармальна з'яўляючыяся носьбітамі нацыянальнай ідэі, некаторыя асобы сваёй крытыкай і абасобленасьцю тармазяць любыя ініцыятывы, якія выходзяць не з іх рук і вуснаў. Большай шкоды беларускай справе нельга прыдумаць. У дадатак, у асяроддзі нацыянальнай эліты культывуецца шпіёнаманія - агентамі спецслужб аб'яўляюцца людзі з розных бакоў дэмакратычнага лагера. Калі так будзе працягвацца, то мы нічога не асягнем. Трэба ўсё ж пакінуць асабістыя амбіцыі і крыўды і трымацца агульнага курса на будаўніцтва нацыі паводле адной стратэгіі. Самы сьвежы прыклад - напруга паміж беларускімі лідэрамі адчувалася падчас "Дня Волі – 2016" у Мінску, калі планаваліся розныя калоны і розныя маршруты шэсьця; усё ж большасьць людзей не зразумела такіх напружаных адносін, бо відаць не была добра з імі знаёма, і пайшла па крыху зьмененаму кампраміснаму (?) маршруту.

Падаецца, што партыйныя спрэчкі трэба пакінуць на пасьля, калі нацыя паўстаньне ў поўнай велічы. Пакуль што нацыянальныя і палітычныя сілы вельмі слабыя для таго каб змагацца паміж сабой за палітычную ўладу паасобку. Спачатку трэба

**Прос'Ты...**
07.02.2016 / 13:02
"Будучая этнанацыянальная дзяржава ўяўляецца такой дзяржавай, якая рэальна адстойвае інтарэсы тытульнай нацыі і ў якой грамадзянам меншасцяў гарантуюцца роўныя правы і абарона ад асіміляцыі пры рэалізацыі іх нацыянальных праектаў".

Духу няма. Трэба казаць проста і ясна... як Гаспадары !

Мы пройдзем і выйдзем з сучаснага стану нягоднасьці. Здаровае будзе жыць, а хворае застанецца. Усё, што з бракам, то - згніе. І нам, як дбайным гаспадарам, неабходна, каб гной не залежваўся і не смярдзеў, а своечасова закопваўся ў зямлю, дзеля каштоўнага перагною. Наша дзяржава будзе нашай. Нашай - значыць народнай і людскай, рэальна адстойваючая інтарэсы сваёй нацыі. Аснова нашай нацыі ёсьць беларусы, каторые з умоў нашай зямлі і з моваю - душою Беларусі. Прышлым гарантуецца роўныя правы і свабоды і ўсё то, каб яны тут не выдзяляліся і не ўзнікла прычын, каб да іх адносіліся, як да чужыны і навалачы. Наша нацыя будзе трымацца на нацыянальным, грамадзянскім і сямейным патрыятызме, базай каторых будуць узаемная павага, ўдзячнасьць і клопат, то - што ў кожным чалавеку пачынаецца з нараджэньня, з мамы. І то, што жадаюць бацькі свайму дзіцяці у будучае, то - наша дзяржава будзе забяспечваць сваім грамадзянам у рэале - гэта Гонар, Годнасьць, Чын.

**юрысты Консульт**
07.02.2016 / 13:24
Важны крок да стварэння праграмы саліднай партыі. Іншыя партыйцы хай зайздросцяць і думаюць, як запісаць свае погляды ў выглядзе праграмных тэкстаў. І як гэтых канкурэнтаў крытыкаваць за тое, што на сябе пацягнулі манапольку апекуноў беларускае культуры і мовы.

**Мікалай**
07.02.2016 / 13:29
Згодны са "Стратэгіяй развіцця беларускай нацыі"!

**Валацуга**
07.02.2016 / 13:29
shpak---наконт вашай ацэнкі думак аўтараў пра ліцьвінства то вы слушна напісалі, падтрымліваю.

**анаим**
07.02.2016 / 13:51
"И кто им дал право разрабатывать какую-то концепцию с прицелом на то, что её должны выполнять все беларусы, я тоже не знаю. Видимо она носит рекомендательный характер."
Это, как я понял, проект, который не только носит рекомендательный характер, но открыт для дополнений и дискуссий:
" Запрашаем Вас да абмеркавання праекта “Стратэгія развіцця беларускай нацыі”, падрыхтаванага па выніках дыскусіі, арганізаванай часопісам “КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ”. Матэрыялы дыскусіі апублікаваны ў 12-м нумары часопіса. Аўтары праекта будуць вельмі ўдзячны за ўсе каментары і дапаўненні па праекту, які вельмі важны для беларускай нацыі." http://sakavik.net/

**самасційны бес**
07.02.2016 / 14:07
Satan, пішыце, Сатан, пішыце можа ваша стратэгія атрымаецца лепш за іхняю. Ну а так, кожная сур'ёзная арганізацыя, кожная дзяржава мае сваю стратэгію развіцця. Калі сучасная беларуская дзяржава не адпавядае той стратэгія развіцця, якую сама ж і зацвердзіла, то гэтым трэба заняцца грамадскай супольнасці.

**Сучаснік Францыска Скарыны**
07.02.2016 / 14:21
Самае простае пытанне да падпісантаў. Як збіраецеся гэтым тэзам даць жыццё пры сённяшней уладзе на Беларусі? Адкажыце, калі ласка. Бо свет ужо іншы, а вы, прабачце, канстатуеце толькі відавочнае і без гэтага "дакуманта".

**Нейкі Дзядзька**
07.02.2016 / 15:07
Valadzimir 07.02.2016 / 14:21
І на сёняшні дзень "беларуская ідэя"... паказала сваю поўную нежыцьцяздольнасьць!
-----------------------------------------------
На сённяшні дзень "беларуская ідэя ўвасобілася ў "незалежнасці і суверэнітэце, якую зараз мае РБ, высокай нацыянальнай аднароднасці насельніцтва (83.7% беларусы), наяўнасці незначнай па колькасці, але актыўна працуючай нацыяналай эліты, істотнай долі насельніцтва, якая спачувае ці можа патрымаць ідэі."

**Тадось**

07.02.2016 / 15:16

Уявіце сабе, што гэтыя людзі атрымалі ўладу ў Беларусі. Не сумняюся, што яны яе хутка згубяць, бо ня здольныя вучыцца ні на сваіх, ні на чужых памылках. Украіна трымалася прынцыпу нейтральнасьці. І які вынік? Відаць, аналіз палітыкі Расеі не паказаў гэтым аналітыкам галоўную пагрозу: рашучы крок да сапраўднай, а не дэкларатыўнай незалежнасьці яна ўспрымае агрэсіўна. Другая такая памылка - па віне такіх вось "стратэгаў" - будзе трагічнай і для Беларусі, і для Украіны.

**Казімір2**

07.02.2016 / 17:39

"Мова" з вялікай літары -- рамантычна і ўзнёсла. Не для такога жанру. Проста "мова" -- абразліва для беларуса. Так гавораць прыхільнікі рускага свету і ў адносінах да ўкраінскай мовы. Можна ж сказаць проста: беларуская мова, родная мова, наша мова, мова тытульнай нацыі і да т. п.

Рана з такім тэкстам "у кожную хату". Гэта ж трэба думаць, каб тэкст чытаўся. Тут жа супярэчнасцяў і недакладнасцяў нямала. Ды і слоўцы: рэгулы, ліцвінства .. . Ужо ж даўно ёсць карэктныя навуковыя вызначэнні Літвы як палітоніма пэўнага перыяду. Трэба акуратненька са словамі абыходзіцца. Тут аматарства не павінна быць. А ідэя даўно вісіць у паветры. Адзін абзац трэба прысвяціць так званай "грамадзянскай нацыі", на што напіраюць цяпер розныя акудовічы ды тарасы. Трэба ж і імёны больш вядомыя для пачатку.

**Міміно**

07.02.2016 / 17:40

Нацыянальная ідэя на галоўным прашпекце краіны яго назвай. Асвета - беларуская нацянальная ідэя. Была, ёсць і застаецца. Асвета сваім ладам жыцця паперш. Вось і жывем зараз пад сцягам антыбеларускай ідэі лукашызма, з усімі ягонымі піцерскімі скарынамі.  Бо забыліся аб скарынінскіх традыцыях Мужыка і Прарока Янкі Купалы.

Чужынскім асвету свайго ажыццяўляем, за якое самі чырвонцы выкладаем. І ТОЧКА, хрэн вас не возьме з усімі вашымі кропкамі, інасранцы мясцовыя!!!

**Заўвага**

07.02.2016 / 17:59

Калі гэты тэкст так зачапіў вядомых беларусафобаў з іх вядомымі-паравядомымі замшэлымі штампамі - аўтары тэксту на верным шляху.

07.02.2016 / 20:58
а мне ўсё спадабалася.. з асаблівым задавальненнем адзначыла, што "будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы не можа быць заснавана выключна на хрысціянскай маралі...", але тут вылез Бенедзікт са сваёй юдэйскай мараллю..

**Кастусь Алешка**
07.02.2016 / 21:13
shpak, згодзен з Вамі.
Пакуль мы жывем побач з агрэсіўнай Расейскай імперыяй, нейтралітэт нам не дапаможа. Адныя мы не ў стане супрацьстаяць гэтай пагрозе. А міжнародная супольнасьць, гледзячы на прыклад Украіны, не з'яўляецца гарантам незалежнасці.

**Зьміцер**
08.02.2016 / 02:44
Акрамя "не падтрымліваць ідэю ліцвінізма" - усё слушна. мы - крывічы, ліцвіны, беларусы і гэта вельмі істотна.

**Таццяна**
08.02.2016 / 08:59
Падтрымліваю! Беларусі бракуе беларускага ў дзяржаўных структурах, у адукацыі. Прадстаўнікі ўлады павінны гаварыць па-беларуску на працы, весці справаводства на беларускай мове. Замежная літаратура ў школах, акрамя ўласна рускай літаратуры, павінна вывучацца на беларускай мове. Гісторыя ўдзелу насельніцтва Беларусі ў другой сусветнай вайне не можа разглядацца з пункту гледжання СССР. З 1 верасня 1939 года пачалася для Беларусі апошняя вайна на яе тэрыторыі. Актуальнасць перамогі ў вайне з нацыстамі Германіі знікае са знікненнем апошніх яе ўдзельнікаў. Праз 10-15 гадоў будаваць патрыятычнае выхаванне галоўным чынам на перамозе ў 1945 будзе відавочна неэфектыўна. Грамадзяне Беларусі, якія праходзілі сацыялізацыю пасля знікнення СССР, будуць ідэнтыфікаваць сябе толькі з незалежнай уласнай дзяржавай Беларусь. І вельмі важна, каб гэтая самаідэнтыфікацыя грунтавалася на разуменні, што Беларусь мае развітую беларускую мову, культуру, якія каля тысячагоддзя развіваюцца на тэрыторыі Беларусі. Беларусы не могуць самасцвярждацца за кошт дасягненняў рускай, ангельскай ці якой іншай культуры. Прадстаўнікі нашай улады сёння разумеюць, што нарвежская сёмга, перепрацаваная ў Беларусі, ёсць беларускі прадукт, але пакуль не разумеюць, што праз беларускую моўна-культурную апрацоўку павінна праходзіць і сусветная, у тым ліку руская, культура, каб стаць потым часткай беларускага свету.

**голас**
09.02.2016 / 17:34
з Каяловічам у галаве трусавых-анісімаў, Полацк-быў радавы цэнтр славян-крывічоў, якія тут абаснаваліся, пацясніўшы і асіміляваўшы балтаў. Па другое, ужо летапісны Рагвалод" прышоў з-за мора (што не абавязкова робіць яго варагам, бо імя не варажскае, а славянскае), маючы ў Полацку вотчыну сваю... "па летапісу. З гэтага вынікае, што ён быў князем тут і раней. Полацкая зямля мела сваю княскую дынастыю, якая адстойвала разам з вечам мясцовыя інтарэсы. Гэта ведалі і Кіеў і Ноўгарад, якія неаднаразова спрабавалі тут пасадзіць сваіх (у 1129г. Мсціслаў Уладзіміравіч выслаў Усяславічаў нават у Царград, з надзеяй , што ніхто з іх не вернецца і дынастыя перарвецца). Але негледзячы на усё гэта, Полацкае княства было першай дзяржавай на тэрыторыі сучаснай Беларусі, а мясцовая знаць далучылася пасля да знаці ВКЛ...

**А. Кашо: Заўвага да пытання нейтралітэту Беларусі**

У абмеркаванні, якое распачалося ў рамках праекту "Стратэгія развіцця беларускай нацыі" адным з найбольш спрэчных пытанняў стала пытанне нейтралітэту Рэспублікі Беларусь. Пытанне гэта вельмі складанае і дыскусійнае.

Відавочна, што нам неабходна шукаць надзейных саюзнікаў, паколькі побач з намі краіна, якая выношвае агрэсіўныя планы аднаўлення імперыі і не збіраецца лічыцца з незалежнасцю былых савецкіх рэспублік. І ўзровень гэтай агрэсіўнасці праяўляецца не толькі ў заявах маргінальных палітыкаў, а на практыцы рэалізоўваецца ў дачыненні да Украіны, агрэсіўныя геапалітычныя памкненні носяць сістэмны характар і выяўляюцца ў рыторыцы і дзеяннях расійскага істэблішменту, незалежнасць суседніх дзяржаў ставіцца пад сумнеў, нецярпімасць да яе пастаянна падаграецца і накручваецца ў расійскіх СМІ, якія ў пераважнай большасці адлюстроўваюць жаданні і настроі кіруючай партыі. І ёсць усе падставы лічыць, што такая палітыка працягнецца на даволі доўгі тэрмін.

Але трэба разумець, што вырашэнне пытання нейтральнасці альбо далучэння патрабуе шмат часу. На гэтым шляху стаіць аўтарытарны рэжым, па віне якога паўнавартасная грамадскае абмеркаванне такіх пытаннях проста немагчымае. Па аўтарытарнай волі цяперашняга кіраўніцтва, насуперак Канстытуцыі наша краіна апынулася ў розных гандлёвых і вайсковых саюзах з Расіяй. У цяперашняй сітуацыі патрабаванне нейтралітэту раўназначна патрабаванню вяртання да канстытуцыйнага ладу і выхаду з саюзаў з агрэсіўнай Расіяй, а значыць у гэтым ёсць карысць.

Так ці інакш, але цяперашні рэжым абрынецца, і дзеля будучыні незалежнай і дэмакратычнай Беларусі трэба ўсяляк паскараць гэту падзею. На што абаперціся ў гэтым руху? На пазіцыю якой-небудзь уплывовай партыі, якую ўсе падзяляюць? Але такіх здаецца няма. Затое ёсць Канстытуцыя 94-га году, на яе і трэба арыентавацца. Аднак, там закладзена ідэя нейтралітэту і яе трэба будзе прыняць на першапачатковым этапе. Адзначым таксама, што значная частка нашых грамадзян у сілу ўздзеяння расійскай прапаганды не гатова прыняць ідэю далучэння да НАТА, гэтае пытанне патрабуе абмеркавання і тлумачэння, якое толькі і можна будзе наладзіць пасля вяртання да канстытуцыйнага ладу.

"Стратэгія развіцця беларускай нацыі" разлічана на 20 год, і як мне падаецца, гэтыя гады і варта выкарыстаць на вяртанне да дэмакратыі з тым, каб вызначыцца

як нам супрацоўнічаць з цывілізаваным светам і якім чынам у яго інтэгравацца, вызначыцца ва ўмовах паўнавартаснага дыялогу. У кожнай палітычнай сілы сваё бачанне вонкавай палітыкі: адныя лічаць, што нам трэба далучацца да ЕС, але не да НАТА, іншыя наадварот за далучэнне да НАТА, але не да Еўразвязу, нехта не супраць таго, каб Беларусь была прадстаўлена і там, і там.

Да таго ж досвед паказвае, што не ўсе міжнародныя дамовы выконваюцца. Так у выніку агрэсіі ў Крыме і на Данбасе Расіяй быў груба парушаны Будапешцкі мемарандум, згодна з якім краіны-гаранты Расія, ЗША і Вялікабрытанія абавязаліся паважаць незалежнасць, суверэнітэт і існыя дзяржаўныя межы Украіны. Заходнія краіны-гаранты незалежнасці, як шмат каму падаецца, прынялі не дастатковыя захады ў супраціве захопніцкім дзеянням Расіі.

Нядаўна на тэлеканале BBS быў паказаны дакументальным фільме, дзе даволі грунтоўна змадэлявана развіццё падзей у выпадку пачатку 3-й сусветнай вайны, у гэтым фільме досыць выразна прадэманстраваны ваганні Захаду наконт адказу на магчымую агрэсію Расіі, нават калі апошняя нападзе на прыбалтыйскія краіны. “Ці гатовы брытанцы паміраць за Даўгаўпілс?” – так ставіцца пытанне.

Таму бясспрэчна тое, што перш за ўсё неабходна мацаваць сваю абараназдольнасць, што і патрэбна будзе рабіць беларуская дзяржава пры аднаўленні канстытуцыйнага ладу. Калі правесці мысліцельны эксперымент і ўявіць, што згода наконт далучэння да блока НАТА ў беларускім грамадстве ўзнікла б у хуткім часе, то сам гэты блок адразу не зможа нас прыняць, так як на гэта патрэбен час і не адзін год. А вайна тым часам як лічаць многія, ужо на парозе. Захад, калі ў яго будзе воля мог бы дапамагчы той жа Украіне, ва ўсялякім разе зброяй, ужо ў рамках Будапешцкай дамовы, але пакуль што гэтага не адбываецца.

Такім чынам, атрымліваецца, што каб вярнуцца да пытання далучэння да блока НАТА нам неабходна вярнуцца да Канстытуцыі 94 года, без пазнейшых дапаўненняў прынятых на незаконных і непрызнаных АБСЕ рэферэндумах, але там прапісана ідэя нейтральнасці РБ. На мой погляд гэтым шляхам і трэба кіравацца, то бок, пытанне нейтралітэту ці далучэння вырашаць толькі пасля аднаўлення канстытуцыйнага кіравання на Беларусі. Фарсіраванае вырашэнне праблемы далучэння да НАТА ў хуткатэрміновай перспектыве немагчымае.

Падсумоўваючы сказанае трэба адзначыць, што на дадзеным этапе ідэю нейтралітэту можна ўключыць у “Стратэгію развіцця беларускай нацыі”, як мэту выхаду з саюзаў з Расіяй, а таксама адзначыць дыскусійнасць гэтай ідэі і магчымасць яе поўнага вырашэння толькі пры вяртанні да дэмакратыі.

**Шышко Вадзім: Заўвагі па практычнай рэалізацыі “Стратэгіі”**

У цэлым праект “Стратэгіі разьвіцьця беларускай нацыі” выглядае добра. Адначасова прысутнічаюць і ўзважанасьць і мэтанакіраванасьць.

Пытаньне ўзьнікла толькі адно, у разьдзеле “Падыходы і сродкі рэалізацыі” па пункту 2: “Давесці змест Стратэгіі да максімальнай колькасці грамадзян РБ. Пажадана каб тэкст Стратэгіі мела кожная сям’я.” Якім чынам плануецца рэалізаваць гэты пункт? Нам усім вядома, што наша дзяржава ні распаўсюджваньнем гэтай стратэгіі, ні ёй самой увогуле займацца не будзе. У такім выпадку якія яшчэ застаюцца сродкі? Хацелася б убачыць іх больш дэтальна, калі, вядома, гэты пункт не з’яўляецца чыста дэкларатыўным – сказаць толькі дзеля таго, каб сказаць.

А ад сябе я бы яшчэ дадаў да гэтай стратэгіі крыху больш жыцьцёва-пабытовы кірунак дзейнасьці. Не буду зноў распісваць падрабязна тэзіс аб тым, што беларуская мова з’яўляецца адным з наймацнейшых гарантаў захаваньня беларускай нацыі, які спрацоўвае на ўзроўні падсьвядомасьці чалавека. Перад намі цяпер стаіць іншае важнае пытаньне – як нашу мову ў гэту самую падсьвядомасьць беларусам укараніць? Жывучы ў правінцыі і назіраючы за звычайнымі людзьмі рознага ўзроўню дастатку я заўважыў, што іх даволі мала кранаюць усе тыя ідэі, якія выкладзеныя ў стратэгіі. Не таму, што яны супраць гэтых ідэй, а хутчэй таму, што мы, беларускія нацыяналісты-ідэялісты, жывём крыху ў іншым “сусьвеце” ў параўнаньні з большасьцю астатніх беларусаў-прагматыкаў.

Іншымі словамі я бы сказаў так: калі мы хочам “дагрукацца” да нашых суайчыньнікаў, то нам трэба паспрабаваць навучыцца размаўляць зь імі на іх “мове”. Іх “мова” не расейская і не беларуская. Іх “мова” – гэта “мова” матэрыяльнага забяспячэньня. Гэта зусім не значыць, што нам цяпер трэба матэрыяльна забясьпечваць беларусаў. Гэта нерэальна і не трэба. Беларусы павінны самі навучыцца самі сябе забяспечваць. А наша задача – стварыць для гэтага матэрыяльнага забеспячэньня беларускамоўную “абалонку”.

Ідэя тут у чым. Кожны дзень беларусы ходзяць у крамы і набываюць самыя розныя штодзённа неабходныя для жыцьця тавары. Кожны дзень яны глядзяць на этыкеткі і назвы гэтых тавараў, каб выбраць тое, што ім больш пасуе. Іх не надта хвалюе, на якой мове напісана інфармацыя на тавары, беларускай ці рускай. Іх хвалюе, каб тавар быў максімальна якасны і танны. Успрыняцьце якасных

уласьцівасьцяў тавару чалавекам успрымаецца на ўзроўні сьвядомасьці – ён чытае інфармацыю і аналізуе, што для яго тут добра, а што не надта. А вось мова, на якой ён чытае гэту інфармацыю, успрымаецца чалавекам падсьвядома. Ён не думае аб ёй, бо ў яго іншыя задачы. А сама мова, тым часам, незаўважна, пасіўна адбіваецца ў памяці чалавека. Калі такое здарыцца раз-два, то гэта будзе незаўважна для чалавека і ніяк не паўплывае на яго. Але калі такі спосаб падачы інфармацыі будзе паўтарацца штодзень, на працягу ўсяго жыцьця, то незаўважна для чалавека беларуская мова пачне арганічна ўпісвацца ў сьветаўспрыняцьце чалавека. То бок, менавіта тое, што нам патрэбна.

Па сутнасьці ідэя не новая. Аб гэтым ужо шмат казалі і абмяркоўвалі. У маіх Паставах па ініцыятыве нашай раённай арганізацыі ТБМ мы дасылалі лісты кіраўнікам розных дзяржаўных прадпрыемстваў (у асноўным харчовых), каб яны на сваіх таварах зьмяшчалі беларускую мову. У адказ мы заўсёды атрымлівалі ветлівую адмову. Наша памылка была ў тым, што мы дасылалі свае просьбы тым, каму беларуская мова нецікавая. Таму вынік мы мелі заканамерны.

Мая ідэя палягае ў тым, каб накіраваць нашыя высілкі не ў бок тых прадпрыемстваў, кіраўнікам якіх беларуская мова нецікавая, а наадварот. Час ад часу там-сям мы сустракаем нейкую інфармацыю аб тым, што недзе з’явіўся або нейкі тавар, афармлены па-беларуску, або нейкая прадпрымальніцкая ўстанова, якая актыўна карыстаецца беларускай мовай. Вось на такіх прэцэдэнтах я раіў бы засяроджваць нашу ўвагу. Калі мы выпадкова даведаліся пра такога прадпрымальніка, які спрабуе ў сваім бізнэсе выкарыстоўваць беларускую мову, то трэба ісьці да яго і прапаноўваць яму супрацоўніцтва. Выглядаць супрацоўніцтва можа, напрыклад, у мовазнаўчай і інфармацыйнай падтрымцы дадзенага тавару або паслугі. Вядома, што наша прапанова павінны быць бясплатнай (прынамсі спачатку, каб не напалохаць чалавека, бо ўсе прадпрымальнікі баяцца лішніх выдаткаў).

Для збору інфармацыі аб такіх прадпрымальніках і таварах можна выкарыстоўваць грамадскія арганізацыі (той жа самы ТБМ, напрыклад, сетка якога ёсьць па ўсё краіне). Тэарэтычна такія прадпрымальнікі хутчэй за ўсё будуць знаходзіцца ў Менску (але не факт). Наведацца да яго з якой-небудзь прызначанай для гэтага працоўнай групай і прапанаваць нашыя паслугі. Калі ён хоча, то мы можам правільна перакласьці на беларускую мову ўсю інфармацыю аб яго іншых таварах, якая знаходзіцца на ўпакоўцы. А рэкламу аб дадзеным беларускамоўным тавары (толькі беларускамоўным, выключна!) мы можам даваць у нашых недзяржаўных перыядычных выданьнях. Бясплатна! Мала які прадпрымальнік адмовіцца ад бясплатнай рэкламы свайго тавару ці паслуг.

Для такой рэкламы добра было б дамовіцца з рознымі нашымі недзяржаўнымі выданьнямі, якія ідэйна нас падтрымліваюць (накшталт “Наша слова”, “Наша ніва”, Народная воля” і інш.). Для прыкладу, як у газеце “Наша слова” перыядычна з’яўляецца рэклама аднаго менскага беларускамоўнага псіхолага. Вядома, што забясплатна газеты не надта разгоняцца друкаваць у сябе рэкламу. Але будзем рэалістамі, наўрад ці мы знойдзем столькі розных беларускамоўных тавараў і ўстаноў, што іх рэклама зойме шмат месца ў газеце.

Дадзеная працоўная група будзе мець сьпіс наяўных беларускамоўных найменьняў тавараў і прадпрыемстваў, каб іх рэкламу перыядычна запускаць праз СМІ, якія захочуць далучыцца да такой кампаніі. Як правільна заўважана ў стратэгіі, спробы дзяржавы праз розныя спарадычныя акцыі папулярызацыі беларускай мовы носяць выпадковы і несістэмны характар. Улічваючы гэта, працу з беларускамоўнымі прадпрымальнікамі трэба рабіць доўгатэрміновай і сістэмнай. Працоўная група павінна на працягу года зьбіраць інфармацыю аб любых розных новых таварах і прадпрыемствах, якія пачалі актыўна выкарыстоўваць беларускую мову і штогод актуалізаваць базу дадзеных, у выпадку, калі нехта з прадпрымальнікаў скончыў сваю дзейнасьць, або адмовіўся ад беларускай мовы.

Што дасьць такая дзейнасьць? Для прадпрымальнікаў, як сказана вышэй, бясплатную дадатковую рэкламу. А для людзей нацыянальна-арыентаваных гэта рэклама будзе ўказваць наяўныя тавары і паслугі, якія можна як набываць самім, так і прапаноўваць сваім знаёмым. Гэта будзе даваць дадатковыя прыбыткі для прадпрымальнікаў, стымулюючы яго на павелічэньне вытворчасьці менавіта гэтай самай беларускамоўнай лінейкі тавараў. Чым больш такіх тавараў, тым часьцей яны будуць трапляцца людзям на крамных паліцах. Тым часьцей звычайныя людзі, перасьледуючы выключна свае матэрыяльныя, гаспадарчыя мэты, будуць сустракаць у звычайным побыце беларускую мову, якая, у сваю чаргу, атрымае магчымасьць трапіць, такім чынам, у падсьвядомасьць сярэднестатыстычнага беларуса.

Я разумею, што гэта ўсё толькі ў тэорыі, у маёй галаве. Калі гэтым пачаць займацца, то давядзецца вырашаць шмат дадатковых пытаньняў, якія не бачныя на першы погляд. Як ідэаліст я прапаную толькі ідэю, а ў рэчаіснасьці ўсё можа атрымацца зусім не так, як я сабе ўяўляю. Але ж, немагчыма нічога дакладна сьцьвярджаць, пакуль не паспрабуеш гэта зрабіць.

З павагай, беларускі нацыяналіст-ідэаліст з Паставаў<br>Шышко Вадзім

**Анатоль Астапенка: Пралегамены да канструявання беларускага нацыяналізму**

*У кожнай сучаснай дзяржаве **кожнынармальны грамадзянін ад пачатку нацыяналіст**. Быць нацыяналістам – гэта нармальны стан чалавека. Чалавека без свайго нацыянальнага пачатку на Зямлі проста не існуе. Кожны нараджаецца альбо эстонцам, альбо рускім, альбо кітайцам... Я нарадзіўся беларусам. І змяніць гэтага я не дам рады. Але калі гэта так, калі Госпад даў мне жыццё ў гэтай нацыі, то значыць так трэба, і ў гэтым маім **нацыянальным існаванні і ёсць Найвышні сэнс**. І калі я уразумеў свой кон і магу нешта зрабіць для свае нацыі, то я мушу ісці гэтым нялёгкім шляхам. А быць беларусам даўнімае існаванне беларускамоўным асяродку, веданне гісторыі свайго народу, традыцыяў, багатай народнай спадчыны.*

**Зыходныя пастулаты беларускага нацыяналізму**

**Першы пастулат – беларускасць.**

Што трэба разумець пад беларускасцю?

***Беларускасць – аблічча беларуса.*** Дыскурс беларускасці – наяўнасць беларускай мовы, нацыянальная сведамасць і любасць да Бацькаўшчыны. Але калі беларускасці няма, калі яе заступае “рюскасць” і мат – а гэта нармальны стан сучаснага беларускага грамадства – то ўсякі вынятак з гэтай “нармальнасці”, тыя адзінкавыя носьбіты беларускасці набываюць асаблівы статус. ***Для такіх людзей беларускасць становіцца прафесіяй.*** Прафесія – “беларус” – парадаксальнае спалучэнне слоў. Але гэтая прафесія ў наш час пільна патрэбная. Толькі прафесіяналы беларускасці могуць адбараніць, адбудаваць і завяршыць так зацягнутае канструяванне беларускае нацыі.

Беларуская нацыянальная ідэя, ці беларускі нацыяналізм, мусяць канструявацца без заляцанняў “направа” ці “налева”, г. зн. без “усходняга” і “заходняга” вектароў. Толькі на гэтай зямельцы, з гэтымі, “тутэйшымі” людзьмі мы можам усведаміць сябе беларусам і сфармуляваць сваю Ідэю – Беларускую Нацыянальную Ідэю. Тут варта спамянуць радкі Ларысы Геніюш:

*Нам не страшны сібірскі больш холад,*

*Нам не страшны маскаль, альбо лях.*

*Чужы серп не патрэбен, ні молат –*

*Мы разгорнем крывіцкі наш сцяг!*

Вось існасць беларускай нацыянальнай ідэі.

Яна не сумяшчаецца з ідэалогіяй "старшэйага брата", не мае нічога супольнага з рыторыкай "славянскага адзінства". Што да апошняга, дык можа дзе ў філалагічна-моўнай праблематыцы і мае сэнс гаварыць пра адзіны корань славянскіх моў, але ні ў якім разе не нацый! Нацыі могуць быць вельмі адрознымі і нават варожымі, дарма што мовы ў іх блізкія.

**Пастулат другі:** ***Дэмакратыя і нацыянальная ідэя несумяшчальныя***. Дэмакратыя ніколе не сябравала з нацыяналізмам. Іншым разам дэмакратычная рыторыка – гэта нават спосаб знішчыць нацыянальную ідэю. Там дзе пачынаецца дэмагогія дэмакратаў – там заўсёды страчваецца нацыянальная ідэя. Яскравым прыкладам можа быць эвалюцыя нашай апазіцыі. Чым больш праектаў яна рэалізоўвала пад ўважлівым вокам амерыканскай дэмакратыі, тым менш гучала ў іх асяроддзі беларуская мова. І найсвяцейшае для Беларусі ў цяперашні час – нацыянальная беларуская ідэя – стала зусім занядбанай. *Культ цяльца атрымаў буйную перамогу*.

Тое, што выйшла ў Белраусі гэтага "найлепшага набытку Захаду" – дэмакратыі, было зусім не тым, чаго чакалі. У нас знікла камуністычная наменклатура, але з'явіўся зусім новы клас людзей, гэтак званыя "новыя беларусы", якім пляваць і на камуністычныя ідэалы і на беларускамоўную інтэлігенцыю – для іх ідэал адзін: рахункі ў замежных банках, шыкоўныя загародныя катэджы і адпачынак на Маямі.

Дэмакратыя – гэта ўлада народа. Былыя наменклатурныя работнікі даволі хутка ўцямілі, што "ўладай народа" можна вельмі добра маніпуляваць. Маючы ў сваіх руках СМІ і шмат чаго яшчэ вельмі патрэбнага, можна накіраваць гэтую народную ўладу на сама пільныя мэты пэўнай кучкі людзей, якія маюць "доступ да карыта". Менавіта такім "дэмакратычным спосабам" праводзіўся рэферэндум 1995 года, вынікі якога закрэслілі шлях беларускаму нацыянальнаму адраджэнню і адкрылі шырокую дарогу для дыктатуры.

**Пастулат трэці. Беларуская нацыянальная ідэя мае свае карані і абгрунтаванне ў хрысціянстве**

Кожны народ мае нацыянальны інстынкт, які дадзены яму ад Бога. У беларусаў гэты інстынкт праяўляецца ў неўміручасці народных традыцыяў, фальклору,

асаблівасцях характару беларусаў, унікальнасці беларускай мовы. Сапраўдны нацыяналізм не супярэчыць сусветнасці, ён ёсць аснова сусветнасці. І шлях да сусветнага пракладваецца толькі праз нацыянальнае. Касмапалітызм – пазіцыя тых людзей, што бачаць сябе па-за нацыяй – насамрэч мажлівы толькі ў індывідуальным развіцці кожнай нацыі. А чым ёсць хрысціянства? Хрысціянства – гэта любасць, якая пашыраецца на ўсіх людзей, зближае іх; яно ўлучае ўсю паўнату сусветнай любасці. Найкаштоўнейшае ў хрысціянстве тое, што яно сцвярджае індывідуальнасць асобы. А нацыяналізм – гэта ідывідуальнасць цэлага народа і любасць да гэтай індывідуальнасці. Такім парадкам, калі мы звяртаемся да нацыяналізму, то яго існасць багаслаўляецца менавіта хрысціянствам – існасць як любасць да індывідуальнасці найвышняга роўню. Як і звычайная любасць да бацькоў, да сям'і, да сяброў, ***нацыяналізм ёсць пэўнай ступенню раскрыцця сусветнае любасці***. Нацыяналізм – гэта асоблівы дар дадзены Богам цэламу народу, і ён – гэты дар – укладзены ў кожнага чалавека свайго народу і таму сцвярджаецца хрысціянствам – вось у чым рэлігійная існасць нацыяналізму.

З сказанага вынікае і наш абавязак як індывідуальнасці непарыўна звязанай з сваім народам. Кожны чалавек мусіць выявіць асабісты Божы Дар быць асаблівай праявай Божай Праўды. У гэтым і палягае рэлігійнае апраўданне нацыяналізму.
Яшчэ раз падкрэслю і тое, што ***нацыяналізм ёсць пэўнай ступенню раскрыцця агульнай, сусветнай Любасці***. Як толькі мы адкінем хоць якую ступень Любасці – мы адразу адчуем непаўнавартасць жыцця. Таму ***нацыяналізм ужо ад нараджэння натуральна ўласцівы кожнаму чалавеку***. Іншая рэч, што ў пэўных гістарычных абставінах пад уплывам розных грамадскіх табу гэтыя ўласцівасці могуць не раскрывацца ці нават уціскацца. Але гэта ўжо пытанні іншага кшталту.

**Пастулат чацверты – трэба любіць Беларусь**

Пад беларускай нацыяй я разумею такую супольнасць людзей, якая насяляе краіну – Беларусь, якая назаўжды злучыла свой кон – з конам гэтай краіны, якая мае сваю адметную мову – беларускую, прыгожыя народныя традыцыі і цудоўную гісторыю. У мяне шмат прэтэнзіяў да гэтай краіны – занядбаны стан роднай мовы, нізкі ровень духовасці, нястача дэмакратычных грамадскіх інстытутаў, аўтарытарны стыль кіравання краінай і шмат чаго яшчэ.

Але я ведаю адно: ***раз я нарадзіўся тут, то гэта значыць так пастанавіў Бог згодна з сваёй найвышняй задумай.*** Ён мяне паставіў сюды як свайго салдата і ***тут я павінен пражыць сваё жыццё, тут яго і скончыць.*** Я адмоўна стаўлюся да

тых, хто шукаючы гэтак званага "лепшага жыцця" ўцякае за мяжу і будуе сваё новае жыццё ці на кульце залатога цяльца, ці на нейкіх іншых хімерных заходніх каштоўнасцях. Яны нават любяць Беларусь, але... завочна. Няўжо цяжка зразумець няўмольную логіку: каб я быў патрэбен Амерыцы ці Нямеччыне, то ***я б з'явіўся на свет менавіта там!*** Але я нарадзіўся ***тут!***

І вельмі брудную справу робяць тыя бацькі, што выпраўляюць сваіх дзетак вучыцца за мяжу: ці пакаёўкай ці мытцом посуду, заразом робіцца ўсё, каб замацавацца там назаўжды. Больш таго, у абдымкі заходняй дэмакратыі накіроўваюцца нават цэлыя патокі маладых людзей, скажам, па вядомай "праграме Каліноўскага". А гэтая дэмакратыя можа скончыцца для іх "дэман-кратыяй". Большая частка гэтых людзей страціцца і для бацькоў, і для Бацькаўшчыны, і для нацыі.

У гэтай кнізе я паставіў, відавочна, цяжкое да выканання заданне: паказаць існасць ці, хутчэй, акрэсліць контуры беларускай нацыі (і этнасу) і паказаць абрысы беларускага нацыяналізму. Для гэтага, на мой пагляд, трэба выявіць прыкметы беларускасці як у прасторы – гэта значыць у найразнастайнейшых сферах чалавечай дзейнасці, так і ў часе – праз усю гісторыі беларускага народу, беларускага этнасу, беларускай нацыі.

**Пастулат пяты. Нацыянальнае мысленне на дзяржаўным узроўні**

Беларуская нацыя складвалася не адно стагоддзе, і працэс яе фармавання не завершыўся да гэтай пары. Могуць запытацца, на якой падставе я лічу, што працэс утварэння нашай нацыі яшчэ не скончыўся. Гэта вынікае з усім ведамых і даўно набалелых праблем. Найперш даецца ў знакі занядбаны стан беларускай мовы і культуры. Але найбольшы сум выклікае ***неразуменне патрэбнасці беларускага нацыянальнага мыслення на дзяржаўным роўні***. Што вядзе да ліквідацыі беларускамоўных школ, дзіцячых садкоў, наагул беларускамоўнай адукацыі. Галоўная умова дасягенння гэтага прынцыпу – стварэнне нацыянальнай беларускай гісторыі.

Цяпер вернемся да сфармулявання асноватворчых прынцыпаў, на якіх будуць грунтавацца нашы пагляды на беларускую гісторыю.

**Прынцыпы стварэння беларускай гісторыі**

**Прынцып першы.** Ён датычыць гэтак званай праблемы "славянскага брацтва". Рызыкну сцвярджаць, што ***няма ніякага славянскага брацтва, як і няма адзінага***

***славянскага племя***. Ёсць група моў, якія паяднoўваюцца ў групу славянскіх моў. Таксама, як існуе, прыкладам, група раманскіх моў, носьбіты якой народы розных краін – Італіі, Францыі, Румыніі і г. д., але ж ніхто не дадумаўся казаць пра нейкае "брацтва" гэтых краін і спекуляваць, такім спосабам, на мажлівых палітычных праектах агульных для гэтых краін.

Аналіз гістарычнага лёсу паказвае на блізкасць беларускага этнасу да наступных этнасаў: літоўскага (балцкага) і ўкраінскага. Менавіта наша супольнае паходжанне і узаемныя ўплывы – найбольш відавочныя. Што тычыцца ўкраінцаў, то на маю думку, працяглы час мы былі, фактычна, адным народам – прынамсі ў часы ВКЛ. У нас адныя і тыя ж нацыянальныя героі, старабеларуская (на Ўкраіне лічаць, што яна – стараўкраінская) мова, адны песні, казкі, паданні. Падзел этнасу пачаўся не так і даўно – недзе ўжо з часоў Рэчы Паспалітай. Украінцы лічаць, што Статут ВКЛ, напісаны "українськoю мовою". Мы павінны лічыць і гаварыць паўвюдна – "**беларускай**". Гэта значыць, што мова тады ў нас была адна (зразумела – розніца ў гутарцы насельніцтва ў розных мясцінах заўсёды ёсць, але, як цяпер прынята гаварыць, – на дыялектным узроўні). Але пазней сфармаваліся дзве розныя мовы і дзве нацыі – беларуская і ўкраінская.

Зусім іншая рэч – рускі этнас. Па-першае, не праглядваецца буйнога цэнтру, накшталт Полацка ці Кіева, вакол якога гуртавалася б будучая руская нацыя. Прынамсі ў часы Кіеўскай Русі. Суздаль? Ноўгарад? Цьвер? Трохі пазней (на 2–3 стагоддзі) такім цэнтрам стала Масква. Але гэта ўжо пазней. І не "трохі", а значна пазней – калі палітычная мапа як Еўропы, так і Азіі істотна змяніла свае абрысы. І, пачынаючы з XV–XVI стагоддзяў, Маскоўскае царства пачынае прэтэндаваць на ролю галоўнай славянскай усходняй дзяржавы і нават атрымоўвае саманазву Трэці Рым). І потым доўгі час (да канца XVIIIст.) дзве буйныя славянскія дзяржавы – ВКЛ і Масковія – спадкаемцы Кіеўскай Русі, будуць аспрэчваць сваё лідэрства ўва ўсіх галінах, пакуль ВКЛ не атрымае паразы ў выніку трох раздзелаў Рэчы Паспалітай.

**Прынцып другі**. ***Беларусь – сэрца Еўропы.*** Беларуская культура гэта не нейкая там, **пераходная, памежная культура** паміж Еўропай і Азіяй, паміж Польшчай і Расіяй – а цалкам самастойная культура, якая наадварот – *зрабіла і робіць уплыў на заходнія рэгіёны і ўсходнія, на поўдзень і на поўнач*. Правамоцнасць такой думкі пацвярджае дзейнасць тысяч этнічных беларусаў, якія ўвайшлі ў гісторыю іншых краін, сталі нацыянальнымі зоркамі Польшчы, Літвы, Францыі, Амерыкі і іншых. Прыкладам, наш суайчыннік Адам Міцкевіч, стаў класікам польскай літаратуры, Фёдар Дастаеўскі – геній рускай літаратуры, Гіём Апалінэр – французскі паэт, а

Ігнат Дамейка – нацыянальны герой Чылі. Цікава, што ў творчасці кожнага з гэтых людзей можна адчуць, убачыць Беларусь.

***Беларусы – арыйскі народ.*** З усіх славянскіх народаў (па іншай версіі і балцкіх) яны найбольш захавалі чыстату сваёй нацыі, што пацвярджаецца мовай, якая максімальна захавала старажытныя рысы і, як даводзіць С. Суднік, блізкая да санскрыту, яны ганарацца сваімі аўтэнтычнымі спевамі і танцамі, высокім інтэлектам і працаздольнасцю.

*Беларусы захавалі найстаражытнейшыя рысы і ўнікальны генатып.* І тут нечакана вымалёўваецца новы найвышэйшы сэнс звязаны толькі з беларусамі. Маю на ўвазе тое, што, мы маем нацыянальны сцяг у выглядзе трох палос – белай, чырвонай і зноў белай. І менавіта такія колеры аздабляюць вопратку найвышэйшых царкоўных чыноў, біскапаў, у беларускай праваслаўнай Царкве. А калі ўлічыць, што ў першыя стагоддзі пасля прыняцця хрысціянства існавала сімфонія дзяржавы і Царквы, г. зн., што яны існавалі як адзіны арганізм, то *гэтая бел-чырвона-белая гама з царкоўнага жыцця накладваецца на ўсё культурнае і грамадскае жыццё старажытнай Беларусі*. І няма больш такой краіны, як праваслаўнай, так і каталіцкай, дзе б царкоўныя і дзяржаўныя сімвалы супадалі! Толькі Беларусь мае такую унікальную гаму! Бел-чырвона-белы сцяг адзін найунікальнейшых, найхарашэйшых і накаваных Госпадам сімвалаў.

І ўспомнім яшчэ Хрыстову кроў на плашчаніцы. Тыя самыя колеры – белы, чырвоны і белы…

І галоўнае: ***наш бел-чырвона-белы сцяг сімвалізуе збаўчую ахвяру Хрыста, укрыжаванага на Галгофе***, гэта ягоная кроў на чыстым, беззаганным Божым стварэнні Шостага дня – чалавека, створанага на вобраз і падобнасць. Гэтыя паралелі не могуць быць выпадковымі, ***Беларусь мусіць быць абраніцай Божай***. Беларусь не толькі геаграфічны цэнтр Еўропы, Беларусь – цэнтр хрысціянства.

**Прынцып трэці.** Гісторыя Беларусі павінна быць ***нацыянальнай***. Гэта гісторыя беларускага этнасу, беларускага народу, беларускай расы і, нарэшце, беларускай нацыі. Беларусь мае бязмала тысячагадовую гісторыю. Бо пачатак яе – абвяшчэнне незалежнасці Полацка і Турава ў X–XI стст. І гэта вялікі гонар – ведаць, што ты належыш да народа, які сваю дзяржаўную незалежнасць датуе тысячагоддзем. *Мы былі тады, калі Масквы яшчэ не было...*

**ВКЛ – была дзяржавай з выразным беларускім характарам, беларускай культурай і дзяржаўнай беларускай мовай.** ВКЛ існавала **больш за 5 стагоддзяў**

(ад заснавання Наваградской дзяржавы каля 1240 г. – да падзелу Рэчы Паспалітай у канцы XVIIIст.) і была адной з наймагутнейшых еўрапейскіх дзяржаў. Яе межы ў пэўныя часы дасягалі вялізнай прасторы – ад Балтыйскага да Чорнага мора. Беларусы засялялі тэрыторую сучаснай Беларусі, Віленскага краю (цяпер Літва), Смаленскай і Бранскай абласцей да Мажайску, Цьверы, Каломны (блізу Масквы), Беластоцкага ваяводства (цяпер Польшча) і часткі Чарнігаўскай вобласці (цяпер Украіна). Акрамя таго Калінінградскую вобласць засялялі ў асноўным беларусы...

***Вялікае Княства Літоўскае было беларускай дзяржавай.*** Усе князі ВКЛ, пачынаючы ад першага князя Міндоўга, карысталіся беларускай мовай не толькі ў справаводстве, але і ў звычайнай гутарцы. Няма ніякіх сведчанняў, аб нейкай сувязі, ці нейкім падабенстве іх роднай мовы з мовай жамойтаў і аукштайтаў – базавым этнасам сучасных літоўцаў. Мова “літвы” сярэднявечча – беларуская, а ліцьвін – гэта назва беларуса тых часоў. Усе асноўныя гістарычныя падзеі, навуковыя і літаратурныя здабыткі ВКЛ звязаны вылучна з беларусамі (і ў адпаведнай меры з украінцамі), але не з сучаснымі літоўцамі, ці як іх яшчэ завуць – з летувісамі. Гэта значыць, што ўся, нахабна прысвоеная гісторыя сучасных літоўцаў, належыць не суседняй краіне – Літве, а Беларусі. Сорам нам, што наш спрадвечны герб Пагоня – герб іншай суседняй краіны – Літвы і наша сталіца Вільня чамусьці (нават у нас!) завецца Вільнюсам. Сорам нам, што наша краіна, якая ў XIII – XVI стагоддзях задавала тон сусветнай цывілізацыі і несла беларускую культуру далёка на Захад, у наш час без усялякіх на гэта падстаў згубіла сваю гістарычную назву, якую “падабралі” ў сучаснай Літве, размешчанай насамрэч на паўднёвы захад ад тэрыторыі сапраўднай, летапіснай Літвы, што месцілася ў басейне сярэдняга цячэння Нёмана.

*Менавіта беларусы прынеслі хрысціянства сваім суседнім пананскім народам жамойтам і аукштайтам, прынеслі разам з ім еўрапейскую культуру і ў літаральным сэнсе “вывелі іх з лесу”. Прынамсі, толькі ў канцы XIX ст. людству стала ведама пра існаванне літаратурнай літоўскай мовы і наагул пра існаванне літоўцаў і Літвы ў сучасным сэнсе – як неславянскай і небеларускай дзяржавы.*

І далёка не другарадная падзея – друкаванне першых кніг (Бібліі, катэхізісу і інш.) у ВКЛ на беларускай мове. Першы друкарскі станок, што працаваў на кірылічным алфавіце, быў створаны Ф. Скарынам больш чым на поўстагодзя раней першадрукара Масковіі Фёдарава. Зрэшты, і Фёдараў паходзіў з Беларусі і меў ад нараджэння прозвішча Федаровіч...

Ці яшчэ адзін штрых. Беларусы ў XVII ст. адбудавалі Маскву (пра гэта пісаў нават Лаўрэнцій Абэцэдарскі) і засялілі яе сваімі найлепшымі сынамі, так што

нашчадкамі іх ёсць сучасныя карэнныя масквічы. Гэта не выпадкова, бо ровень культуры, навукі і тэхнікі ў ВКЛ тых часоў на парадак перасягаў суседнюю Масковію. Наагул, пералік унёску беларусаў у сусветную культуру можна працягваць бясконца і я буду як мага старацца пра гэта казаць.

***Гісторыя Беларусі і яе тытульнай нацыі – беларусаў яшчэ не напісаная.*** Яна мусіць быць перапісана вылучна ў нацыянальным духу, без аглядкі на Маскву, Польшчу і Літву і я б дадаў, ідучы за духам часу, – без аглядкі на Еўропу. Яна павінна быць перапісаная так, каб там не было месца такім выразам як "ВКЛ – беларуска-літоўская дзяржава", а заменена – "***ВКЛ выключна беларуская дзяржава***". (З цягам часу слова "выключна" можна паступова апускаць). І руска-польскія войны Масковіі, пра якія так любяць апошнім часам гаварыць модныя гісторыкі, у значнай ступені не толькі войны з Польшчай, а і з Беларуссю, і, можа з апошняй, нават у большай ступені. І не трэба замоўчваць далікатны момант, звязаны з святкаваннем Расіяй 4 лістапада, гэтак званага "Свята Замірэння", якое было прызначана на гэтую дату на знак вызвалення Рускай дзяржавы ад "палякаў" у 1612 годзе. Тыя "палякі" у вялікай ступені былі ў сапраўднасці беларусамі! І калі я чацвёртага лістапада іду ў свой Свята-Пятра-Паўлаўскі храм каб адзначыць дзень Казанскай Божай Маці, то заўсёды думаю пра тое, што нам трэба быць больш сумленнымі і шчырымі ў такіх пытаннях і не забывацца, што праваслаўная дзяржава ВКЛ тых часоў і праваслаўная маскоўская дзяржава суіснавалі ў не вельмі сяброўскіх дачыненнях. І свята адной дзяржавы – часта было трагедыяй для другой, і наадварот.

*Нацыянальная гісторыя Беларусі патрэбная. Мы наноў павінны прайсці нашу тысячагадовую гісторыю, перапісаць падручнікі, манаграфіі, усю літаратуру з пазіцый нашай нацыянальнай ідэі.*

***Якой павінна быць фармулёўка беларускага нацыналізму?***

Мне падаецца, што немажліва знайсці універсальнае формулы *Беларускай нацыянальнай ідэі (БНІ*), альбо, інакш, *беларускага нацыяналізму*. Ніжэй прапануюцца толькі некаторыя простыя падыходы да праблемы, якія на мой пагляд відавочныя і не патрабуюць нейкіх празмерных высілкаў.

У першым раздзеле быў дадзены агляд сучасных уяўленняў аб нацыяналізме ў свеце і дадзеная універасальная фармулёўка, якой пільнуецца аўтар гэтай кнігі. У аснове гэтага ўяўлення ляжыць простая праўда:

*Нацыяналізм – гэта любасць, найперш любасць да свайго народу, сваёй Бацькаўшчыны і вера ў яе лепшую будучыню. Гэтая любасць не любасць-эрас з*

*пачуццёвымі, фізічнымі адносінамі паміж аб'ектамі – і не любасць-філія паміж сябрамі. Гэта любасць агапэ – Божая любасць, асветленая хрысціянствам.*

***Некаторыя папярэднія заўвагі.*** Трэба канстатаваць відавочны факт: апазіцыйны рух на дадзеным этапе фактычна зайшоў у тупік і мала здольны да сапраўднага змагання за дэмакратыю, правы чалавека і наагул за вывад Беларусі з глыбокага крызісу. Таму патрэбны кардынальна новы падыход да гэтай праблемы пры складзенай сітуацыі.

Першае: мы павінны выразна ведаць: «*Чаго мы хочам?»*.

Другое (калі ўжо ведаем адказ на першае пытанне): мы павінны даць адказ на сакраментальнае пытанне «*Што рабіць*?»
Здаецца, большасць грамадзян Беларусі будуць салідарнымі ў першым пытанні – усе мы хочам лепшага жыцця. Праўда, гэтае «лепшае жыццё» людзі разумеюць па рознаму. Большасці, зразумела, трэба мець больш грошай пры мінімуме высілкаў. Ёсць такія, што скажуць годнае жыццё – гэта не толькі грошы, гэта культура, родная мова, гэта Айчына-Беларусь. Ёсць і вялікая трэцяя група людзей, якая дакладна не ведае таго, чаго яна хоча, але не супраць і першага і другога падыходаў.

Таму развязанне другога пытання будзе залежаць ад таго кантынгента грамадзян, з якім мы маем справу. Мы павінны падыйсці да адказу на пытанне «Што рабіць?» гнутка, і падаць яго не адназначным спосабам, а так, каб нашыя прапановы былі блізкія і зразумелыя максімальна большаму колу грамадзян Беларусі. Мы, прыкладам, мусім (прынамсі, на першым этапе) *адкінуць* збрыдлыя большасці нашых грамадзян *«культурніцкія» захадыза агульнае панаванне беларускай мовы*. Да абсурду даходзяць некаторыя сцвярджанні дзеячоў з ТБМ, прынамсі такое: будзе мова – будзе і дэмакратыя. Заўсёды хочацца адказаць на гэтую тэзу наступнае: – "Не будзе, спадары, гэта так проста. Шлях да цывілізаванага грамадства доўгі і складаны".

Перш за ўсё нам трэба вызначыць прыярытэты, забіць трывалыя п**á**лі ў гэтае няўстойлівае, зменлівае грамадства, даць такую ідэю, якая б здаволіла ўсіх. Прынята называць такую кіроўную ідэю ў грамадстве – нацыянальнай. Якой жа павінна быць *беларуская* нацыянальная ідэя?

Трэба заўважыць тое, што наагул само спалучэнне слоў – беларуская нацыянальная ідэя (БНІ) – незразумелае "сярэдняму" жыхару нашай краіны. Таму мы павінны БНІ фармуляваць як бы ў двух вымярэннях:

А – для дасведчаных грамадзянаў;

Б – для большасці «электарату».

**Фармулёўка Беларускай Нацыянальнай Ідэі для групы А.**

Найперш мы павінны цвёрда ўсведаміць, што беларуская нацыянальная ідэя (БНІ) – гэта праект рэалізацыі нацыі і нацыянальнай дзяржавы.

Галоўныя атрыбуты беларускай нацыянальнай ідэі (далей – БНІ).

1. БНІ – імкненне грамадзяніна Беларусі ўсведаміць сябе ў сваёй нацыі і сваёй нацыянальнай дзяржаве.

2. БНІ ёсць выразнік акрэсленага тыпу культуры, уласцівага беларускаму этнасу і ўлучае эканоміку, вытворчасць, адукацыю, рэлігію, мастацтва, літаратуру, іншыя складнікі ўсёй сведамай і мэтнай дзейнасці грамадзянаў.

Канкрэтызуем гэтую пазіцыю па асноўных галінах культуры:

а) *Нацыянальная эканоміка*. Некаторыя эканамісты (прыкладам, Л. Злотнікаў) лічаць, што не існуе нацыянальнай эканомікі. Гэта не зусім слушнае меркаванне. Менавіта ўпор на нацынальныя каштоўнасці і дазволіў пасляваеннай Нямеччыне хутка выйсці з крызісу. Людвіг Эрхард, творца пасляваеннай нямецкай эканомікі, назваў новую эканамічную праграму "нямецкім цудам". ФРГ дзякуючы прадуманай і нацыянальна прыстасаванай эканамічнай праграме за невялікі тэрмін (1947 – 1953 гг.) выйшла з стану поўнага разбурэння і стала перадавой еўрапейскай краінай.

Кожная перадавая дзяржава дасягнула сваіх поспехаў якраз дзякуючы сваім нацыянальным асаблівасцям у эканамічнай галіне. Прыкладам, тая ж Японія мае фірму "Sony", ведамую ўсяму свету. І ў галіне сваёй прадукцыі гэтая фірма амаль не мае сабе роўных.

Апрача тэхналагічных нацыянальных асаблівасцяў, пры стварэнні эканамічных праектаў вялікую ролю маюць таксама тэрытарыяльныя і геапалітычныя асаблівасці размяшчэння краіны. Сюды ўваходзяць як прыродныя багацці, нетры, лясы і азёры, так і размяшчэнне краіны. Прыкладам, шэраг еўрапейскіх краін маюць значны даход ад транзіту таварапатокаў праз тэрыторыю (Швейцарыя, Чэхія, Аўстрыя, інш.). Беларусь таксама мае ўсе гэтыя атрыбуты.

б) *Нацыянальная адукацыя. Навучанне павінна праводзіцца на мове тытульнай дзяржавы*. Але гэта – толькі ў ідэале, пераход на беларускую мову мае быць паступовым, гнуткім, нават “неадчувальным”. Дзеля таго, каб унікнуць

дыскрымінацыі нацыянальных меншыняў, на тэрыторыі іх пражыцця побач з звычайнымі навучальнымі ўстановамі адкрываюцца школы з роднай мовай меншыняў.

в) *Рэлігія.* У развітых нацыях-дзяржавах Царква няўхільна нясе на сабе нацыянальны адбітак. Як у каталіцкіх Касцёлах, так і ў праваслаўнай Царкве набажэнствы дзе-як мага праводзяцца на нацыянальных мовах, альбо ў комплексе з прафетычнымі мовамі (накшталт царкоўнаславянскай).

3. Няма дзяржавы, што не мела б сваёй *нацыянальнай сімволікі*: нацыянальнага сцягу, гербу і гімну. Беларусы таксама маюць сваю прадвечную нацыяналную сімволіку. Гэта бел-чырвона-белы сцяг, герб Пагоня, і некалькі нацыянальных гімнаў, сярод якіх найулюбёнейшым ёсць «Магутны Божа», напісаны знакамітым кампазітарам Міколам Равенскім на словы выдатнай паэткі Наталлі Арсеньевай. «Магутны Божа» ёсць неафіцыйным гімнам усіх беларусаў свету.
БНІ дасягне сваёй сапраўднай моцы толькі тады, калі наша сімволіка дойдзе да кожнага грамадзяніна, стане афіцыйнай.
4. БНІ павінна быць накіравана на *кансалідацыю грамадства*. Толькі нацыянальная ідэя здольная паяднаць розныя, часам неўзгодныя групы насельніцтва, якія жывуць супольна, у адной дзяржаве.

5. Беларуская нацыянальная ідэя павінна знаходзіць свае *карані ў мінулым*. Гэта ўся нашая вялікая гістарычная спадчына, якая пачынаецца з помнікаў матэрыяльнай культуры, гэта летапісы і хронікі, гэта народныя традыцыі, паданні, фальклор, інш. На гістарычным матэрыяле БНІ мацуецца, набірае сілу.

Не дзіва, што многія народы, этнасы і нацыі дзеля паўнаты самасцверджання апелююць да гіпербалізаваных падзей, часта ўзвялічаных і нават выдуманых постацяў мінулага. І героі мінулага ідэалізуюцца, іх адмоўныя рысы паступова сціраюцца дзеля таго, каб зрабіць чысты станоўчы прыклад для сучаснікаў і будучых пакаленняў.

Яскравы прыклад – гістарыяграфія ў сучаснай Літве, дзе ўсе набыткі мінулага ВКЛ разглядаюцца як спадчына сучасных этнаграфічных літоўцаў, хоць добра ведама, што 80 % – 90 % жыхароў княства складалі русіны – продкі сучасных беларусаў і ўкраінцаў.

6. *Мэтай БНІ ёсць утварэнне незалежнай беларускай нацыі-дзяржавы*. Паўната беларускай нацыі будзя дасягнута ў той момант, калі ўсе грамадзяне краіны, улучаючы тых, хто і не ўваходзіць у склад тытульнай нацыі, здольныя аб'яднацца,

каб супольна жыць у адзінай, суверэннай дзяржаве. БНІ мае ў гэтым ролю "пуцяводнай зоркі".

7. *БНІ – ляжыць у аснове вонкавай і нутраной палітыкі Беларусі*. Нацыянальныя інтарэсы краіны – першасныя пры ўкладанні міжнародных дамоў, пры ўтварэнні міждзяржаўных эканамічных і палітычных звязаў і г. д. Ігнараванне сваёй НІ можа прывесці да паглынання больш моцнай дзяржавай свайго меншага "хаўрусніка". Так, прыкладам, склаўся шлях ВКЛ пасля пакладання ў 1569 г. Люблінскай уніі з Каралеўствам Польскім і царкоўнай Брэсцкай уніі ў 1596 г. Тады вызначальнымі сталі прыватныя інтарэсы заможнай шляхты ды крывадушнасць і фанатызм часткі праваслаўнага духавенства. Так можа і цяпер скласціся лёс Беларусі пасля мажлівага паглынання яе Расеяй у выніку неабдуманай вонкавяй палітыкі.

8. *НІ набывае пэўную закончанасць, калі яна фамулюецца як ідэалагічная платформа нацыі.* Гэтая тэарэтычная канцэпцыя носіць назву "нацыяналізм". Нацыянальная ідэя няўхільна вядзе да нацыяналізму – праграмы дзеянняў для падтрымання гэтай ідэі і дасягнення яе мэтаў. Салідарнасць, пра якую мараць нацыяналісты, засноўваецца на валоданні ўсім этнічным багаццем у часе і прасторы, набыткамі мінулых пакаленняў, якія нясуць у сябе росквіт нацыянальнага генія. Фактычна, нацыналізм ёсць рэалізацыяй нацыянальнай ідэі ў тэарэтычнай плашчыні, нацыя – рэалізацыя нацыянальнай ідэі ў практычнай плашчыні.

***Вымярэнне групы Б (фармулёўка БНІ для электарату)***

Перш чым сфамуляваць БНІ ў практычным яе сэнсе, г. зн. у той форме, у якой яна будзе блізкай і зразумелай кожнаму грамадзяніну Беларусі, трэба падзяліць наша грамадства на некалькі ўмоўных груп:
1) інтэлігенцыя (службоўцы) і работнікі;
2) гарадскія жыхары і вяскоўцы;
3) прыхільнікі дэмакратыі, незалежнасці Беларусі і праціўнікі гэтых каштоўнасцяў, тыя, хто дагэтуль марыць аб вяртанні зніклага Савецкага Саюзу ці хутчэйшага саюзу з Расеяй;
4) вялікаягрупа “абыякавых” – “балота”, шэраямаса, тыя, хто, на першыпагляд, нічога не хоча і нікуды не імкнецца. Згэтайгрупайтрэбапрацавацьнайболей, бояна і дасцьпатрэбныпрацэнтперавагідэмакратам;

5) ёсць мноства іншых груп: аб'яднанняў паводле інтарэсаў, працоўных калектываў, нацыяналістаў і шавіністаў, прыхільнікаў і праціўнікаў беларушчыны і г. д. Усе гэтыя групы нейк перасякаюцца з ранейшымі і могуць уваходзіць у іх.

Кожная з груп 1 – 4 можа таксама падзяляцца паводле прыкметаў груп 5. Трэба дабіцца таго, каб платформа рэалізацы БНІ, сфармуляваная вышэй у дачыненні да групы А, стала блізкай і зразумелай групе Б – усім жыхарам Беларусі.

1. Першае і найважнейшае заданне аднолькава патрэбнае для ўсіх груп насельніцтва, – гэта ўсведамленне мусовасці існавання Беларусі як незалежнай дзяржавы. Калі для большасці сяброў апазіцыйных партыяў і няўрадавых арганізацыяў, сведамай інтэлігенцыі, гэтая праўда не патрабуе даводжання, то для простага люду, работніка і сяляніна, наагул тых, хто жыве мінулым, – незалежнасць не відавочная каштоўнасць. Прыточым шэраг моцных аргументаў:

А) Ідэя свайго дома. Беларусы хатні, гаспадарлівы, прывязаны да свайго кута. І трэба, зрабіўшы ўпор на гэтыя якасці, паслядоўна правесці ў жыццё лозунгі: “Беларусь – наш дом”, “Беларус – стань гаспадаром сваёй зямлі!”. Слова *гаспадар* тут трэба ўсведамляць не толькі ў сэнсе гаспадар ворнай зямлі на сяле, а ў шырокім сэнсе – гаспадар усёй беларускай зямлі: палёў, лясоў, рэк, азёраў і г. д.

Б) Беларус не любіць ваяваць. І тым больш ваяваць на іншай тэрыторыі і за іншыя інтарэсы. Трэба паслядоўна даводзіць, што шчыльны, палітычны звяз з Расеяй, а тым больш зліццё з ёй – гэта небяспечны крок для нас. Гэта і каўказцы на рынку, і чачэнскія войны, і служба нашых сыноў у гарачых пунктах і няўхільныя цынковыя труны.

2. Другое заданне, што стаіць перад грамадзянамі Беларусі – выхаванне пачуцця сваёй годнасці, самакаштоўнасці свайго “Я”. Мы не толькі не горшыя за іншых народаў, мы – лепшыя. У нас працавіты адукаваны народ, у нас вельмі высокі працэнт адукаваных людзей у Еўропе. Нашыя вучоныя, інжынеры, пісьменнікі, мастакі ведамыя ўсяму свету. У беларусаў славутае мінулае, старажытная гісторыя, мы складалі ядро адной з наймацнейшых дзяржаў Еўропы – Вялікага княства Літоўскага. Мы павінны выкарчаваць ярлык непаўнавартай нацыі, што не мае мінулага, гісторыі. Трэба развіваць той тып нацыяналізму, які носіць у палітаталогіі назву “прэстыжны”. (Можа, недзе патрэбна і міфалазаваць сваё мінулае.

3. Трэцяе заданне – фармаванне, “усталяванне” народнага правадыра. Трэба даць народу новага, ці на новым падмурку паставіць старога, кіраўніка дзяржавы. Гістарычна склалася так, што беларускі народ прызвычаіўся жыць за спінай “бацькі”. Некалі быў цар. Былі шуканні “добрага цара”. Потым быў “Бацька ўсіх

народаў” – Сталін. Яго баяліся, але і цанілі “цвёрдую руку”. Потым – Хрушчоў, Брэжнеў, Андропаў… Шэраг гэтых імёнаў для ўсіх савецкіх грамадзян адзіны, але для беларусаў ён яшчэ дапаўняецца легендарным Машэравым. Не зусім правільным будзе меркаванне, што гарантам суверэннасці Беларусі будзе не прэзідэнт, а моцная грамадзянская і палітычная супольнасць. Якраз гэтую “моцную супольнасць” і зробіць моцнай прэзідэнт, правадыр, якому паверыць народ. Не так проста нашаму народу змяніць векавую традыцыю падпарадкоўвацца “галоўнаму начальніку” – цару, генсеку ці прэзідэнту. Гэтая традыцыя перарасла ў беларускую якасць і стала адной з рыс нашай ментальнасці.

Таму да абрання новага прэзідэнта трэба ставіцца вельмі адказна. Ён, як і сучасны прэзідэнт, павінен быць сваім для народу, ён павінен гаварыць тое, што народ хоча чуць, ён за сяброўства з Расеяй, але і за добрыя дачыненні з Еўропаў і ЗША. Але ён павінен быць “сваім” усіх нас. Новы Рух за дэмакратыю і Беларусь павінен быць не ў апазіцыі да абіранага прэзідэнта – а ў шчыльнай лучнасці з ім. Але дзеля таго, каб не паўтарылася цяперашняя сітуацыя з неабмежаванымі правамі прэзідэнта, трэба ў новым заканадаўстве абавязкова замацаваць шэраг патрэбных законаў для абмежаванняў ягоных мажлівасцяў.

4. Стварэнне (канструяванне) беларускага нацыяналізму. Аналіз сучаснага становішча беларускага этнасу ў Свеце прыводзіць да наступных асноў канструявання беларускай нацыі. Мы падзелім гэтыя асновы на дзве групы: першую назавем “*група НЕ*”. Гэта ідэі, на якія нельга ставіць першаснымі, засяроджваць на іх максімуму ўвагі, хоць яны і маюць дачыненне да фармавання беларускай нацыі і нацыяналізму. А на другім этапе яны можа будуць і галоўнымі. Але толькі пасля здзяйснення першага этапу, ці ў спалучэнні з ім. Другая група аб’ядноўвае ідэі, якія павінны быць першаснымі, узяць на сябе ўвесь цяжар стваральнай працы. Назавем гэтую групу “*група ТАК*”.

*Група НЕ.*

У беларусаў супраць многіх развітых народаў, прыкладам, этнасаў прыбалтыйскіх, не склалася досыць выражанага нацыянальнага аблічча, якое часта прынята звязваць з сваёй роднай мовай. Тут няма патрэбы заглыбляцца ў прычыны гэтай з’явы. Будем выходзіць з таго, што ёсць. Будзем грунтавацца толькі на рэальным стане рэчаў.

1. Перадусім адзначым наступнае. Відавочным стаў факт: ***беларуская мова не можа быць асновай для беларускай нацыянальнай ідэі.***Нацыю прыдзецца ствараць на іншых каштоўнасцях. Мова “прыйдзе” пазней і яна *няўхільна прыйдзе*, але ўжо пасля таго як у грамадстве складзецца сведамы беларус. Гэты сведамы

беларус*САМ захоча гаварыць на роднай мове.* Дарэчы, мноства, калі не большасць, сведамых беларускамоўных грамадзян загаварылі па-беларуску ў сталым ці досыць дарослым веку, – менавіта праз усведамленню сябе беларусам, асобным этнасам, адзінкай адметнай грамадзянскай супольнасці.

Якія ж фактары трэба вылучыць, каб канструяванне беларускай нацыі і, адапаведна, беларускага нацыяналізму стала рэальнасцю? І які механізм можна ўзяць за аснову?
Гісторыя ведае розныя варыянты станаўлення нацыяналізму. Прыкладам, германскі нацыяналізм заснаваны на моўным аб’яднанні людзей. У свой час менавіта нямецкая мова аб'яднала мноства рознародных нямецкіх земляў, якія мелі адзін супольны аб’ект – адзіную мову. *Аднак для беларусаў, з прычынаўпамянёныхвышэй, гэтыварыянт, на жаль, мала верагодны.*

2. Не падыдзе для беларусаў і рэлігійная мадэль яднання нацыі. Ведама, што паляк асацыюецца з каталіцызмам, расеец – з праваслаўем. Англіканская царква стала царквой ангельцаў – іх і толькі іх рэлігіяй. Менавіта гэтая акалічнасць стала вырочным чыннікам у пераўтварэнні ангельскага этнасу ў ангельскую нацыю, што адбылося яшчэ ў XV – XVI-м стст.

У Беларусі назіраецца вельмі стракатая палітра рэлігійныхканфесіяў, і на шляху шуканняў адзінай нацыянальнай веры для “сярэдняга” беларуса нас чакае крах. Таму гэтую галіну трэба аднесці да найінтымнейшых бакоў ментальнасці беларуса, ц іжыхара Беларусі і, можа, гэта і добра.

3. Гістарычныя міфы. Вельмі важныя для беларусаў. Але яны “дойдуць” да народу толькі на другім этапе. Рэч у тым, што за гады атэістычнага, сатанінскага бальшавізму ў беларусаў склаўся менталітэт занядбанага народу, накшталт крылатага: “Мы нялюдзі – мы паляшукі”. Сваё славутае гістарычнае мінулае яны не ведаюць, а калі нехта і даводзіць да іх сапраўдныя гістарычныя факты, то яны іх проста не ўспрымаюць: “Можа яно і так, але ж…“.

*Група ТАК.*
1. Больш прымальная для беларусаў французская мадэль нацыяналізму – *канструяванне нацыі вакол ідэі дзяржаўнасці.* Сапраўды – суіснаванне жыхароў Беларусі, усяго беларускага грамадства на кампактнай тэрыторыі з даволі нядрэннымі прыроднымі ўмовамі, з выдатным геапалітычным станам, з высокім інтэлектуальнам і навукова-тэхнічным патэнцыялам – гэта амаль ідэальная мадэль для развітай сучаснай дзяржавы еўрапейскага кшталту. Гэта даўно ўжо зразумелі

беларускія прадпрымальнікі, якія адны з першых будуць бараніць наш суверэнітэт. Мадэль Беларусі як нейтральнай незалежнай дзяржавы, што ляжыць паміж зонай дзяржаваў НАТА і Расейскай Федэрацыяй – цяпе рвельмі рэальны варыянт. Нашая вонкавая палітыка павінна будавацца на ўсталяванні блізкіх кантактаў, эканамічных і інвестыцыйных дачыненняў з краінамі Заходняй Еўропы і, зразумела, ЗША – з аднаго боку, і сяброўскіх адносін з Расеяй на аснове раўнапраўных партнёрскіх сувязей – з другога боку.

2. Некалькі заданняў трэба развязаць насамперш. Трэба выпрацаваць некалькі неадкладных дамоў, правілаў, якімі мы будзем карыстацца ў працы. Перадусім гэта датычыць унармавання граматыкі беларускай мовы. У дадзены момант існуе некалькі варыянтаў выкарыстання граматакі, сярод якіх вылучаюцца тры галоўныя: тарашкевіца, наркамаўка і нейкі сярэдні варыянт (празваны “дзеясловіца”, – ён выкарыстоўваецца ў часопісе “Дзеяслоў”). Такі стан рэчаў вядзе да блытаніны, непаразуменняў, урэшце, да непісьменнасці.

Яшчэ на пачатку 90-х гг. вялася дыскусія наконт правядзення навуковай канферэнцыі аб беларускім правапісе і выпрацоўванні адзіных нормаў беларускай граматыкі. Але гэта не было зроблена. І не трэба чакаць ад Акадэміі Навук station станоўчых крокаў. Такую канферэнцыю можна правесці праз Інтэрнэт.

Інтэрнэт і тэлекамунікацыі даюць неабмежаваныя мажлівасці шырокага разгортвання працы на станаўленне беларускай нацыі і нацыяналізму. І калі пачнецца паспяховае напаўненне зместам азначанай намі “групы ТАК”, яна няўхільна пацягне і першую групу “НЕ”, якая, безумоўна, стане кампанентай ТАК беларускай нацыі.

3. Ідэя дзяржаўнасці яшчэ *не самадастатковая* для канструявання беларускай нацыі. Яна толькі ўмова станаўлення, прагрэсу нацыі. *Саму нацыю трэба перадусім стварыць*. І *гэты механізм* трэба, відаць, *пачынаць з нуля*. Такі варыянт нацыяналізму ведамы як фінскі. Фінскую нацыю стварылі нацыянальныя ідэолагі ў канцы XIX ст. праз стварэнне фінскага міфа, які, сваім парадкам, праз адукацыю і асвету быў прынесены ў народ, і які паклаў пачатак нацыі.

На нашу думку, беларускую нацыю можна ствараць таксама з нуля. Але не рамантызаваць нацыю праз нейкага нацыянальныга генія, а ствараць яе праз шыранне легенды аб практычнасці нацыянальнага існавання, выгодах быць беларусам, наагул прыярытэтнасці беларускай ідэнтычнасці ў Беларусі што да іншых этнасаў, у прыватнасці, рускага.

*Пачатак XXI стагоддзя заспеў беларусаў можа ў найспрыльнейшы момант для стварэння сваёй ідэнтычнасці, стварэння сваёй нацыі і нацыяналіму.*

Канец XVIII–XIX стст. звязаны з пачаткам індустрыяльнай рэвалюцыі, якая прывяла да пераўтварэння многіх этнасаў у нацыі-дзяржавы. Гэты працэс працягваецца і цяпер. Але у дадзены гістарычны момант сусветная гісторыя ўвайшла ў новую паласу, новую адметную эпоху, якая спачатку і не была заўважаная.

Гэтая эпоха носіць назву інфармацыйнай рэвалюцыі і пачалася зусім нядаўна – з пачатку 90-х гг. ХХ стагоддя. Так, тады, калі ў нас пачыналася нацыянальнае адраджэнне і станаўленне кволай беларускай дзяржаўнасці, у свеце разгарэлася інфармацыйная рэвалюцыя, якая рэзка мяняе дачыненні паміж людзьмі, мяняе менталітэт людзей і шмат што іншае. Дзякуючы сусветнай кампутарнай сетцы ўся земная куля імгненна пераўтварылася ў адзіную сістэму, законы якой розняцца ад ранейшых і вынікаюць з агульнай тэорыі сістэм. Цяперашнюю эпоху звязваюць з працэсамі глабалізацыі, сусветная супольнасць дзяржаў нават атрымала назву “сеткавыя грамадствы”, што пераводзіць нашае існаванне ў свеце на якасна новы ровень”.

Разам з развіццём філасофіі глабалізацыі не меньшы размах атрымаў і іншы працэс – адваротны. Існасць яго ў тым, што як ніколі ў людзей з’явілася імкненне да шукання тоеснасці. “Самасць”, сваё “Я” набывае зараз першаступеннае значэнне. І сусветная кампутарная сетка, інтэрнэт – найлепшы сродак да здзяйснення беларускай ідэнтычнасці на справе. Тое, што рабілі некалі фіны “ўручную”, пачынаючы сваю нацыю “з нуля” – хадзілі ў народ, вялі праз маладзенькіх настаўніц адукацыю сяла, і праз многія іншыя акцыі, цяпер можна ажыццявіць зусім іншым спосабам, практычна, не выходзячы, з дому. Усе гэтыя заданні паспяхова выканае Інтэрнэт. Больш таго, да адраджэння беларускай нацыі можа спрычыніцца амаль кожны. Кампутарызацыя, тэлекамунікацыі прачочваюцца зараз у кожны дом, у кожны горад, а неўзабаве прыдуць і ў кожую вёску.

*І ўсё гэта дае нам выдатны шанец стварэння сваёй нацыі. Але каб гэты працэс не пайшоў “самацёкам”, яго трэба цэнтралізаваць, распрацаваць шэраг заданняў і праектаў, што будуць працаваць на стварэне беларускай нацыі праз глабальную інтэрнэтаўскую сетку, іншыя кампаненты інфармацыйнай эпохі.*

Анатоль Астапенка, 9 верасня 2014 года.

*Ад рэдакцыі: Аўтарам, Анатолем Астапенка, праведзены цікавы і глыбокі аналіз стану нацыі і рэалізацыі нацыянальнаяй ідэі, які ў многім супадае з тым, што канстатуецца ў абмяркоўваемай “Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі”. З чым рэдакцыя не можа пагадзіцца то з падзяленьнем беларускай нацыянальнай ідэі на*

*2 катэгорыі - А – для дасведчаных грамадзянаў; і Б – для большасці «электарату». Робячы так мы ўскладняем у значнай меры ўспрыняцьце як самой нацыянальнай ідэі, так і задач, якія відавочна будуць рознымі для гэтых катэгорый. Таксама мы не зусім згодныя, з перабольшанай рольлю хрысьціянства ў беларускім нацыяналізме.*

**Summary of Discussion "The Nation Building and Modernity - 2015"** *(continuation).*
**The project "Strategy of the Belarusian Nation Development".**
*(magazine "CULTURE, NATION", March 2016, issue 13, pp.27-65)*

The project "The Strategy of the Belarusian Nation Development" was published in our magazine (February 6, 2016) , the newspaper " Nasha Niva " (February 7) , the newspaper "New Time", on the websites of the World Association of Belarusians "Backaushchyna", Belarusian Language Society, "We - The Nation", "Pahonja" (Czech Republic), Belarus News. There were 55 comments in the newspaper "Nasha Niva". Based on the published constructive comments and amendments made by the authors of the project, it was prepared the amended version of the project. We are grateful to Mr. Yakavenka and Mr. Kenka for comments made regarding a style and document language. In the "Discussion Section" the following materials were published: an amended version of the "Strategy" as of March 25, 2016, constructive comments posted on other web sites, comments on the issue of neutrality (A. Kasho), comments on the practical implementation of the "Strategy" (V. Shyshko), article on the national question (A. Astapenka). Constructive comments relate to issues such as the attainment of status neutrality by the county, the mentality of the Belarusians, the role of the church \ religion in nation-building, and some other issues. Naturally, the magazine "CULTURE, NATION" is waiting for new comments, so that as much as possible to improve the "Strategy of Development of the Belarusian Nation" to a greater extent.

*Рэцэнзія, пераклады*

**Пётра Мурзёнак: Глабалізацыя супраць нацыі.** *Рэцэнзія* на эсэ Васіля Якавенкі "Як знайсці духоўнасць і гармонію ў грамадстве".

Брашура вядомага пісьменніка і публіцыста В. Ц. Якавенкі "Як знайсці духоўнасць і гармонію ў грамадстве" выйшла ў сьвет у канцы 2015 года ў Мінску (Васіль Якавенка. – Мінск: Тэхналогія, 2015.– 47с.). Брашура складаецца з трох частак, аб'яднаных адной тэмай, якая хвалюе аўтара, а менавіта - развіцьцё нацый ва ўмовах сучаснай глабалізацыі. Развіцьцё нацый разглядаецца ў кантэксьце розных умоў, якія могуць весьці як да росквіту, так і да заняпаду нацый і нават цывілізацый, у прыватнасьці, еўрапейскай цывілізацыі.

Першая частка брашуры прысьвячаецца выбітнаму беларускаму вучонаму і мысьляру М. І. Крукоўскаму (1923-2013), сусьветнавядомаму сваімі працамі ў галіне дынамікі развіцьця грамадства і яго культуры. Аўтар праводзіць паралелі творчасьці М. І. Крукоўскага па праблемах эстэтыкі і культуралогіі з працамі такіх філосафаў як Гумбальт і К. Лявонцеў. У кантэксце разглядаемай тэмы аўтар падкрэслівае важны ўклад М. І. Крукоўскага ў разуменьне спалучэньня ідэальнага і матэрыяльнага, духойнага і матэрыяльнага кампанентаў ў развіцьці чалавека і пазнаньня ім сусьвету. В. Ц. Якавенка добра ведаў М. І. Крукоўскага і вельмі цёпла і ўзнёсла піша таксама пра яго асабістыя інтарэсы і захапленьні. Паведамляецца, што рыхтуецца выданьне твораў М. І. Крукоўскага ў 5-ці тамах.

Разгледзеўшы некаторыя тэарэтычныя асьпекты станаўленьня гармоніі ў грамадстве, аўтар, у другой частцы, якая называецца "Ад забыцьця да адраджэньня", дае негатыўную крытыку тэорыі Б. Андэрсэна аб уяўных нацыях\супольнасьцях, а таксама крытыку ідэалогіі трансуніверсалізму. Выказваецца занепакоеннасьць тым, што ідэя трануніверсалізма, канчатковай мэтай якога можа быць стварэньне універсальнай дзяржавы ці цывілізацыі, прывядзе да зьнікненьня нацый. Тэорыі трансуніверсалізма\трансгуманізма пакуль што не знаходзяць шырокага разуменьня ў краінах заходняй цывілізацыі, заснаванай у асноўным на хрысьціянскай маралі. Базуючыся на больш раньніх гістарычных мадэлях існаваньня дзяржаў ці супольнасьцяў (грэчаская, рымская цывілізацыі) гэтыя тэорыі сапраўды ў выніку рэалізацыі нясуць пагрозу існаваньню нацый. Аднак, гэта перспектыва вельмі аддаленая, улічваючы разнастайнасьць мадэляў глабальных супольнасьцяў; так, S. Huntington (1993) выдзяляе 8 цывілізацый - Заходняю, Артадокс, Ісламскую, Кітайскую, Індыйскую, Японскую, Лацінаамерыканскую і Афрыканскую (на поўдзень ад Сахары).

З другога боку, на думку многіх даследчыкаў працэс нацыяутварэньня працягваецца і ў нашы дні, у той час як другія лічуць, што эпоха ўтварэньня нацый скончылася ў канцы 19-га – пачатку 20-га стагоддзя. Сьведчаннем таму, што нацыянальнае будаўніцтва працягваецца і сёння, з'яўляюцца краіны былой Югаславіі і СССР, уключна з Украінай, Беларусьсю, Сербіяй, Літвой і іншымі. Тое ж назіраецца і ў Еўропе, дзе не сканчаюцца спрэчкі еўрааптымістаў, якія імкнуцца збудаваць адзіную дзяржаву – Еўрасаюз, і еўраскептыкаў, прадстаўленых нацыянальнымі сіламі, якія адстойваюць інтарэсы сваіх нацыянальных культур і схільныя да далейшага развіцьця нацый; еўраскептыкам зараз спрыяюць праблемы міграцыі з якімі Еўропа сутыкнулася ў апошнія 2 гады.

Аўтар брашуры спасылаецца на К. Хюбнера, які бачыць рэалізацыю нацыянальнай ідэі, як неабходнасьць для духоўнага і культурнага развіцьця народа. Звяртаючыся да прыкладу Беларусі, падкрэсліваецца, што рэалізацыя нацыянальнай ідэі ў нашай краіне стаіць перад беларускім народам вельмі востра – без зьберажэньня ідэнтычнасьці, развіцьця беларускай культуры і традыцый існаваньне беларускай дзяржавы праз некалькі гадоў можа быць пастаўлена пад вялікае сумненьне. У брашуры вельмі вобразна даецца вызначэньне паняцьцям народ і нацыя: народ уяўляецца ўяўным збудаваньнем без традыцыйнага даху, тады як нацыя вымагае, каб збудаваньне мела гэты дах, а менавіта, "уласную гісторыю, культуру, мову, веру, еднасць псіхічнага стану і традыцый". Без належнага клопату пра гэтыя складнікі нацыі немагчыма яе далейшае развіцьцё і існаваньне. Тое, што дзяржава не клапоціцца аб развіцьці нацыі сьведчаць хаця б афіцыйныя адносіны да мовы, нізкі ўзровень нацыянальнай адукацыі (толькі 16% дзяцей вучыцца па-беларуску) і заняпаду выданьня кніг на беларускай мове.

Прапануюцца 3 магчымыя, даволі схематычныя мадэлі ўзаемаадносін паміж нацыяй, народам і уладай\дзяржавай. Яны наступныя:

1. Варыянт гета: нацыя адсутнічае, бо народ ізаляваны ад духоўных скарбаў, ад сваёй культуры, мовы і гісторыі. Паміж народам і уладай існуюць толькі сацыяльна-вытворчыя сувязі.
2. Варыянт гармоніі. Народ і дзяржава знаходзяцца ў парытэце з нацыяй.
3. Варыянт партнёрства і гармоніі. Гарманічныя дачыненні існуюць паміж усімі трыма суб'ектамі.

Хаця і не вызначаецца які-небудзь канкрэтны варыянт для Беларусі, аднак, відавочна, што варыянт гета ў найбольшай ступені адпавядае цяперашняй сітуацыі: дзяржава стаіць асобна над народам і пазбаўляе народ многіх прызнакаў нацыі. Хаця механізмы гэтага негатыўнага ўплыву ўлады на нацыю і не паказаны, аднак,

кожны можа прыгадаць прыклады дзеянняў рэпрэсіўнага аппарата як непасрэдна на саміх людзей, так і апасрэдавана праз сродкі масавай прапаганды. У гэтай сувязі аўтар б’е ў набат – страта духоўнай культуры раўназначна страце душы, і канчаткова, страце Айчыны.

Апошняя, заключная частка брашуры называецца “Ліст у Еўропу”, і прысвечана тэме захаваньня еўрапейскай цывілізацыі. Напачатку даецца аналіз тэндэнцый у вырашэньні нацыянальных пытаньняў у Еўропе і абмяркоўваецца даволі раманчычная ідэя аб адкрыцьці Музея гісторыі і культуры Еўропы. Ліст у Еўропу падпісаны навукоўцамі і публіцыстамі Беларусі і Украіны і накіраваны кіраўніцтву Еўрасаюза. Паводле меркаваньняў падпісантаў ёсьць шмат прыкмет дэградацыі нацыянальных супольнасьцяў. Нацыі пад час глабалізацыі не маюць належнай падтрымкі і абароны, што можа весьці да ліквідавання разнастайнасці этнічных культур і саміх нацый. Як прыклады, прыводзіцца спасылка на шведскую журналістку, зрабіўшую аналіз думак шведскіх еўрарамантыкаў, адмаўляючых ужо сёння шведскую культуру. Аднак, з другога боку, заявы некаторых палітыкаў у Францыі, Германіі і Англіі, зробленыя ў 2010-2011 г.г. сведчаць аб тым, што палітыка шматкультуралізму не працуе; як вынік у гэтых краінах умацоўваюцца арганізацыі правага толку. Зноў жа, пад’ёму нацыянальных сіл спрыяе міграцыя насельніцтва з Бліжняга і Сярэдняга Ўсходу. Гэта праблема патрабуе разумнага рэгуляваньня і калі, напрыклад, Германія праводзіць адкрытую палітыку ў дачыненьні да мігрантаў, то шэраг невялікіх краін (Венгрыя, Македонія) проста будуюць сьцены і зачыняюць межы. Тым не менш, у асноўным еўрапейскія краіны не адмаўляюцца ад дэмакратычных стандартаў роўнасьці і братства. Тут нельга пагадзіцца з аўтарам, што ў Еўропе дзейнічаюць амерыканскія стандарты. Якраз дэмакратычныя стандарты ў ЗША і ў Еўропе даволі блізкія і не таму, што яны амерыканскія і індывідуалістычныя, а таму, што яны дэмакратычныя. Да таго ж у цывілізацыйным плане краіны Заходняй Еўропы і Паўночнай Амерыкі звычайна адносяць да адной цывіліцыі – Заходняй.
Нельга таксама пагадзіцца з той думкай, што нацыям пагражаюць мігранты ці часовыя рабочыя: «Беларусь штогод прымае ўсё большую колькасць чужародных гастарбайтэраў, і неўзабаве з’явяцца кітайскія правінцыі. Магчыма, і ўкраінскія... Далібог, гэта не можа шыкаваць настрой у грамадстве». Тут гучыць прыхаваная неталерантнасьць да чужых, хаця агульнапрынята лічыць, што беларусы вельмі талерантныя людзі. Магчыма ў адносінах да прадстаўнікоў існуючых канфесій у Беларусі такая талерантнасьць сапраўды маецца, аднак, даследаваньні адносна чужых людзей у краіне, адносна смяротнага пакараньня не дазваляе ў поўнай меры казаць у такім сэнсе пра талерантнасьць беларусаў. На сёняшні дзень насельніцтва

Беларусі даволі аднароднае, аднак, працэсы міграцыі адбываюцца зараз ва ўсім сьвеце і беларусам ў нейкай ступені трэба з разуменьнем да гэтага рыхтавацца.

Відаць, што трывога за еўрапейскія нацыі падштурхнула падпісантаў «Ліста ў Еўропу» на даволі рамантычную ідэю аб стварэньні Музея Еўропы. Музей Еўропы, на іх думку, павінен стаць важнейшым сродкам захаваньня культурнай памяці еўрапейцаў. У такім цэнтры прадугледжваецца навукова-даследчая праца па гісторыі развіцьця нацый на кантыненце, перасяленьні народаў, вывучэньне сучасных стасункаў паміж цывілізацыямі і нацыямі. Усё ж практычная рэалізацыя такога праекта, маючы на ўвазе сучасныя выклікі якія стаяць перад Еўропай, магчыма будзе адкладзена на невыразную будучыню, хаця падаецца вельмі цікавай з пункту гледжаньня абароны інтарэсаў нацый, асабліва малых нацый.

Нягледзячы на невялікі аб'ём брашуры, выкарыстаны аўтарам комплексны падыход (тэорыя, аналіз стану еўрапейскіх нацый, прапанаваны праект) дазволіў закрануць актуальныя праблемы існаваньня нацый у сучасных умовах, якія могуць быць цікавымі для многіх чытачоў.

Piotra Murzionak: **Globalization versus nation.** Review for the brochure "How to reach spirituality and harmony in society" written by Vasil Yakavenka.

*(Abstract, magazine "CULTURE, NATION", March 2016, issue 13, pp. 66-69)*

V. Yakavenka using an integrated approach (theory, analysis of the European nations, the proposed project) discussed urgent problems of the existence of nations in the modern society which can be interesting to many readers. Source: "Як знайсці духоўнасць і гармонію ў грамадстве". Васіль Якавенка. Мінск: Тэхналогія, 2015. 47с.

**Вацлав Ластовский: Что нужно знать каждому белорусу?**

Редакция решила дать полный перевод с беларуского на русский язык статьи «Что нужно знать каждому белорусу?», написанной известным беларуским политическим деятелем и учёным Вацлавом Ластовским (Вацлаў Ластоўскі, 1883-1938). В шестом номере журнала «КУЛЬТУРА, НАЦИЯ» (июнь 2014) статья была переведена частично. Редакция восполняет пробел и даёт статью полностью в переводе на русский язык. Перевод с беларуского на русскій язык Пётры Мурзёнка.

Почему на русский язык, ведь основной язык журнала белорусский? Решение о переводе В. Ластовского на русский язык идет не от хорошей жизни. Во-первых, людей, которые читают, становится все меньше. Во-вторых, реалии таковы, что белорусы читают в основном русскоязычную литературу (на рынке Беларуси 85% книг печатается не на родном языке, а на русском). Подход редакции такой, что если этой статьёй в переводе на русский язык заинтересуется хотя бы один человек, который не стал бы читать оригинальный материал на беларуском, то это следует делать. Нужно сражаться за каждого белоруса, у которого еще может проснуться желание не только писать в анкете, что он белорус (возможно только чувствуя себя гражданином Беларуси или свою территориальную принадлежность к стране), но и вести себя как белорус.

Многие идеи Ластовского, отраженные в его статье, опубликованной почти сто лет назад, до сих пор актуальны для белорусов. Статья В. Ластовского написана в виде вопросов и ответов на них. Более подробно о жизни и творчестве Вацлава Ластовского Вы можете прочитать в интернете. В конце перевода Вы найдёте оригинальное стихотворение А. Зязюли (1878-1921) "Ніколі", включённое В. Ластовским в его статью как "Прысяга беларуса".

## ЧТО НУЖНО ЗНАТЬ КАЖДОМУ БЕЛАРУСУ

### I.О СЕБЕ И О СВОЕМ НАРОДЕ

Каждый современный культурный человек прежде всего должен знать, кто он такой, какой его язык, народ и край, где он живет, какая его история. Он уже с малых лет должен уметь ответить на самые простые основные вопросы, как, например:

**- Кто мы?**

- Мы беларусы.

**- Кто это беларусы?**

- Беларусы - это народ арийской расы, славянского племени.

**- Что это народ или нация?**

- Народ или нация - это объединение человеческих поколений в их беспрерывном потоке, никогда непрерывающемся и неисчерпаемом, имеющих одно расовое происхождение, т.е. в чьих жилах течет одна кровь, кто населяет одну территорию, имеет свой оригинальный физический и духовный тип, свои обычаи, культуру, историю и народный характер, которым они отличаются от других людей, говорят на одном языке и демонстрируют свою национальную сознательность и волю.

**– Являются ли беларусы народом?**

– Да, беларусы являются народом, так как имеют свой язык, заселяют сплошной массой одну территорию, имеют свою древнюю историю, культуру, обычаи, представляют собой отдельный физический и духовный тип, проявляли и проявляют свою национальную сознательность и волю, стремясь к лучшей самостоятельной жизни.

**- Много ли в мире народов?**

- В мире есть много разных народов, и каждый заботится о своем добре, расширяя даже часто свои влияния на соседние народы, чтобы пользоваться их богатствами и трудом, возвышая себя, и унижая других. Так, например, наши соседи - россияне и поляки - всегда старались расширять своё влияние среди беларусов. Они использовали наших людей, наши богатства, и господствуя в нашем крае, сталкивали беларусов на последнее место, старались русифицировать или

полонизовать беларусов. Они старались уговорить несведущих наших братьев, чтобы они отрекались от своего родного: языка, песни и грамоты, а вместо нашего родного подсовывали свое чужеземное. Таких овец в волчьей шкуре нужно избегать.

**- Кто может принадлежать к тому или иному народу или нации в целом и к беларускому народу в частности?**

- Принадлежность к тому или иному народу или нации нельзя выбирать по своему усмотрению. Принадлежащим к тому или иному народу каждый человек становится уже по своей природе, по крови, телом и душой своей. То есть, у кого течёт беларуская кровь, кто говорит по-беларуски, - тот этим самым принадлежит к беларускому народу.

Осмысленным гражданином своего народа беларус становится только тогда, когда он осмыслит, - то есть, узнает хорошо, кто он сам и почувствует духовную и кровную связь со всем своим народом.

Народное сознание сближает и соединяет людей воедино в сильную семью. Нашему сердцу дорог и мил каждый беларус, даже если он живёт далеко от нас, так как он принадлежит к нашему народу, ведь это наш брат по народности. Все другие народы, даже если бы они и жили в Беларуси, они нам чужие, так как каждый из них сочувствует и любит свой народ и свою Родину, а не нашу.

**- Сколько есть всех беларусов?**

- Беларусов вообще во всём мире живет более 15 миллионов. Своим счетом беларуский народ занимает среди других народов почтительное место. Найбольшим народом являются немцы, которых насчитывается более 100 миллионов.

россиян »» »65»
англичан »» »47»
французов »» »42»
итальянцев »» »42»
украинцев »» »40»
испанцев »» »25»
румын »» »19»
беларусов »» »15»

венгров »» »10»
голландцев »» »8»
португальцев »» »7»
чехов »» »6»
болгар »» »6»
греков »» »6»
шведов »» »6»
финнов »» »4»
датчан »» »4»
норвежцев »» »3»
ирландцев »» »3»
словаков »» »3»
литвинов »» »3»
латышей »» »2»
эстонцев »» »1»

**- Почему каждый из нас должен называться беларусом?**

- Потому что все мы родились беларусами, в жилах наших течет беларуская кровь, говорим по-беларуски и чувствуем себя беларусами.

**- А как называется тот, кто отвергает свой народ?**

- Тот, кто отрекается от своего народа - ренегат, предатель, душепродавца. Ведь предательство - это наибольший позор. Поэтому искренний беларус всегда будет держаться своего беларуского народа, своего края. Искренний беларус, истинный сын своего народа, всегда будет той мысли: пусть лучше погибну, чем отрекусь от своего народа беларуского. Ведь с Беларусью и с беларуским народом связана наша жизнь, ведь Беларусь - это наше наивысшее благо, наша радость и слава.

**- Какие обязанности имеет беларус по отношению к своему народу и краю?**

- Беларус должен любить свой край, свою речь и не отрекаться от них. Должен позаботиться, чтобы в беларуском крае развивалось благополучие, беларуская культура, и чтобы весь народ был счастливым. Во благо своего народа и края беларус должен быть готовым на величайшие жертвы, даже отдать жизнь.

## II. ПРО БЕЛАРУСКУЮ ЗЕМЛЮ

**- Где живут беларусы?**

- Беларусы живут на жизненном пространстве Беларуси!

**- Живут ли беларусы за пределами Беларуси?**

- Да, потому что над беларусами господствовали долгое время чужаки, беларусы не раз вынуждены были покидать свою Родину, и вытирать чужие углы. Очень много беларусов в царские времена переселялись в Сибирь, в Америку, в Бразилию, а также в другие страны.

Большевики же насильно высылали беларусов на Мурман, в Казахстан и другие дальние страны. В результате большевистской и польской оккупации Беларуси много беларусов по политическим причинам вынуждены были выезжать или просто даже убегать за пределы своей страны, в Германию, Чехию, Францию, Америку, чтобы таким образом спасти свою жизнь и иметь возможность дальше работать на благо Беларуси и беларуского народа.

**- Богата ли беларуский земля?**

- Беларуская земля богата, ведь в Беларуси хорошо родит зерно, картофель, лён, конопля, свекла, а также очень ценное растение коксагыз, из которого можно делать каучук. Растут также различные травы, благодаря которым может хорошо развиваться животноводство. Урожайность коксагызу может привести к широкому развитию резиновой промышленности. Благодаря же тому, что растёт свекла, может развиваться сахарная промышленность, а зерно, картофель и лён - это главные основы спиртовой и текстильной промышленности. В Беларуси есть много лесов, где водится много разных зверей, где растут грибы и ягоды. В Беларуси есть также много озёр и рек богатых рыбой. Реки являются также очень удобными коммуникационными путями и очень хорошо способствуют электрификации и развитию промышленности. Беларусь богата торфом, который является не только хорошим топливом, но из него можно делать бензин и различные другие ценные химические продукты. Есть в Беларуси и залежи железных руд и бурого угля. В нашем крае уже находили залежи нефти и соли. В целом, однако, внутренние богатства нашего края еще точно не исследованы, но и то, что есть является большим богатством. До сих пор, к сожалению, Беларусь не имела своего доброго

хозяина. Чужаки, - россияне и поляки, которые у нас так долго хозяйничали, - старались только эксплуатировать наш край и вывозили наше богатство, не заботясь о благе и развитии нашего края. Если же будет хорошее руководство, когда беларусы будут мочь спокойно работать на своих хозяйствах, в промышленности, торговле, тогда в Беларуси будет благополучие и достаток.

## III. ПРО СВОЙ ЯЗЫК

**- Что такое народный язык?**

Народный язык это тот язык, на котором говорит весь народ. Каждый народ имеет свой родной язык и на нём везде говорит. Родной язык - великое народное богатство, народ должен его высоко ценить и уважать, ведь как говорит Алесь Гарун:

*Ад дзядоў і ад прадзедаў, браце,*
*Гэта скарб нам адзін захаваўся,*
*У сялянскай аграбленай хаце*
*Толькі ён незабраным застаўся.*

(От дедов и от прадедов, брат,
Только это сокровище у нас сохранилось,
В крестьянском ограбленом доме
Только оно незабраным осталось).

**- Как легче распознать, что мы беларусы?**

Легче это узнать по нашей речи. Язык соединяет людей в один народ. И наш беларуский язык соединяет более 15 миллионов беларусов в один народ.

**- Почему мы говорим на беларуском языке?**

- Ведь он наш родной, а каждый человек любит свой родной язык: так, например, немец любит язык немецкий, болгарин - болгарский, а беларус - беларуский. И все, что хорошее, доброе, все мудрости мира - науку, литературу - мы лучше понимаем и любим, когда слышим их на своём родном языке, так как он нам наиболее понятен и доступен. В своем доме мы, бывает, мало наслаждаемся прелестью

нашего языка, зато будучи на чужбине, как только услышим наш язык, то очень радуемся. Ведь человеку милее слышать и говорить на своём родном языке.

**– Какой наш язык?**

– Наш язык один из чистейших в славянской семье языков. Он хороший, благозвучный, очень напевный и гибкий, что очень заметно в поэзии и пении. Это всё потому, что язык наш сохранил старинный славянский характер, он – как мать в славянской семье языков. На него, как дети к матери, похожи все славянские языки: московский, сербский, чешский, украинский, польский и др. Враги нашего народа лгут, что язык наш не самобытный, когда говорят ‘это мешанина московского и польского языков’. Так могут говорить только наши недоброжелатели или тёмные люди. Много учёных людей разных национальностей обучались нашему языку и писали о нём учёные книги, и все они в один голос говорят, что язык беларуский совершенно самобытный, отдельный язык, такой же отличительный славянский язык, как польский или московский. В старину наш язык был одним из самых культурных восточнославянских языков, на нём говорили князья наши, князья и вельможи Великого Княжества Беларуского (литовского), и короли польские. Беларуский язык был языком дипломатов на востоке Европы. На беларуском языке в Великом Княжестве Беларуском (литовском) писались все законы, велись все дела в правительстве и судах, проходили сеймы и др. От тех времен сохранилось немало документов, книг, грамот и все они написаны на нашем чистейшем беларуском языке.

**- Имеют ли беларусы свою литературу (письменность)?**

- Мы, беларусы, имеем богатую свою отдельную письменность. Беларуская письменность, литература старше польской и московской. Из всех славянских народов одни только чехи раньше беларусов имели печатную библию на своем языке.
Чешская библия выпущена в 1488
Беларуская » в 1517
Украинская " в 1555
Польская » в 1561
Литовская » в 1660
Московская » в 1751

Беларусы в давнишние времена имели свою очень богатую письменность. В XVI веке были написаны и напечатаны на беларуском языке все законы, духовные

